

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

22 ЛЮТАГА 2002г. № 8/4142 КОШТ 280 РУБ.


## МАЯ ВЁСКА ДАЕ МНЕ СІЛЫ

***Васіль ГАРУС:***
***"Веру, нашчадкі дзядоў і прадзедаў вернуцца на сваю зямлю, калі не дзеля бізнесу і заробкаў, дык хаця б дзеля памяці, таму што тут жылі продкі".***



## СКРАЗНАЯ ЛІНІЯ ПАЭТА

***Леанід ГАЛУБОВІЧ — пра кнігу Алеся КАСКО "Трохкроп'е"***



## НОВЫЯ ВЕРШЫ

***Васіля ЖУКОВІЧА і Алеся КАМАРОЎСКАГА***



## ПОШУКІ ІСЦІНЫ

***Абразкі Лідзіі АРАБЕЙ***



## ПАМІЖ ПАЛАНЕЗАМ І "КАМАРЫНСКАЙ"

***З 25 лютага па 2 сакавіка ў Мінску пройдзе XIII з'езд кампазітараў Беларусі. З гэтай нагоды з артыкулам выступае кампазітар Алесь РАШЧЫНСКІ***



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы!*
*Напамінаем, падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе працягваецца. Яе можна афарміць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1100 рублёў, на тры — 3300 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на тры — 7500 рублёў.*

**Ведамасны індэкс — 63857.**

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

*Цячэ сцюдзёная вада,*
*нібы сцюдзёнае святло...*



# КОЛА ДЗЁН

***Ужо амаль два тыдні, як ідуць XIX зімовыя Алімпійскія гульні. Доўгі час беларускія алімпійцы ў многіх відах спаборніцтваў хоць і былі блізкія да ўзнагарод, але толькі 19 лютага атрымалі бронзавы медаль. Алімпійскім прызёрам стаў фрыстайліст Аляксей Грышын. Шкада, што больш узнагарод у нашай каманды няма. І ўсё ж нельга не радавацца. 20 лютага з лікам 4 : 3 наша зборная па хакеі перамагла каманду Швецыі. Цяпер у нашых хлопцаў як мінімум будзе чацвёртае месца. Малайцы!***

### ДЭКРЭТ ТЫДНЯ

У друку з'явіўся Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 3 "Аб некаторых пытаннях рэгулявання мінімальнай заработнай платы". У каментары да яго гаворыцца: "У адпаведнасці з гэтым Дэкрэтам мінімальная заработная плата (МЗП) будзе прымяняцца выключна ў сферы працоўных адносін для забеспячэння сацыяльных гарантый работнікам. Яна ўжо не будзе выкарыстоўвацца ў якасці нарматыву для разліку памераў пенсій, стыпендый, дапамог і іншых абавязковых сацыяльных выплат, а таксама падаткаў, збораў, штрафаў і іншых плацяжоў. Гэтыя функцыі будзе выконваць так званая базавая велічыня. З-за празмернай дадатковай нагрузкі раней памер МЗП быў неапраўдана заніжаны, што сказалася яе прызначэнне ў рэгуляванні працоўных адносін. З 1 сакавіка 2002 года пастановай урада мінімальная заработная плата ўстанаўліваецца ў памеры 17 тысяч рублёў, а базавая велічыня — 10 тысяч рублёў. Памер базавай велічыні будзе пераглядацца па меры павелічэння тарыфнай стаўкі першага разраду". Гэты дэкрэт уступае ў сілу з 1 сакавіка 2002 г., з'яўляецца часовым і згодна з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прадстаўляецца на разгляд Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Мяркуючы па даведніку "The World Factook", самай багатай краінай у свеце з'яўляюцца Злучаныя Штаты Амерыкі, у якой памер расходнай часткі бюджэту ў 2000 годзе складаў 1,828 трыльёна долараў. Сярод еўрапейскіх краін на першым месцы Германія, у якой бюджэт складае 996 млрд. долараў. У Вялікабрытаніі — 555,2 мільярда долараў. Сярод краін з пераходнай эканомікай самы большы бюджэт мае Польшча — 49,6 мільярда рублёў. Расія — 40 мільярдаў, Чэхія — 16,7 мільярда, Венгрыя — 13 мільярдаў, Румынія — 11,7 мільярда, Украіна — 8,3 мільярда, Славенія — 8,1, Славакія — 5,2, Балгарыя — 4,8, Беларусь — 4, Узбекістан — 4, Казахстан — 3,1, Літва — 1,5, Эстонія — 1,4, Латвія — 1,3, Азербайджан — 777 мільёнаў, Туркменістан — 588 млн., Малдова — 536 млн., Грузія — 437 млн., Арменія — 360 млн. Аналізуючы лічбы, можна зразумець, што ў нашай краіне не такі ўжо і маленькі бюджэт, але, мяркуючы па тым, як жыве наш народ, то яго яўна недастаткова...

### НОВАЕ ТЫДНЯ

У Венгрыі ўступіў у сілу новы закон аб уездзе і знаходжанні іншаземцаў. Ён прыняты ў рамках падрыхтоўчых мерапрыемстваў па ўваходжанні Венгрыі ў Еўрапейскі саюз. Па новым законе віза ўжо не з'яўляецца аўтаматычным дазволам на ўезд. Пагранічныя службы пры наяўнасці візы маюць права патрабаваць дадатковыя дакументы, якія пацвярджаюць наяўнасць неабходнай колькасці грошай для знаходжання ў краіне.

### ДАСЛЕДАВАННЕ ТЫДНЯ

Мінскі навукова-даследчы інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных праблем правёў даследаванне жыллёвых праблем і шляхоў іх вырашэння. Згодна даследаванню, сваім цяперашнім жыллём незадаволены 65,7 працэнта мінчан. Патрэбу ў дадатковым жылым пакоі маюць 15,9 працэнта мінчан, у аднапакаёвай кватэры — 12,6, двухпакаёвай — 15,1, трохпакаёвай — 14,1, чатырохпакаёвай кватэры і большай — 8,1 працэнта. У той жа час болей як 10 тысяч квадратных метраў жыллёвай плошчы ў Мінску пустуюць. На пачатку мінулага года ў сталіцы больш за 15 тысяч чалавек мелі дзве кватэры, 2,5 тысячы — тры, 600 чалавек — чатыры, 9 чалавек — 5 і болей кватэр... У сярэднім на аднаго жыхара Мінска летась прыпадала 20,1 кв. метраў агульнай плошчы, 13,8 — жылой... Такія вось варункі...

### ЭКСПЕРЫМЕНТ ТЫДНЯ

З трэцяй вучэбнай чвэрці ў Брэсцкай вобласці пачаўся эксперымент з пераходам агульнаадукацыйных школ на пяцідзённы навучальны тыдзень. У эксперыменце захацелі ўдзельнічаць 427 устаноў адукацыі (71,4 працэнта ад усіх школ вобласці). На сённяшні дзень не пажадалі перайсці на пяцідзёнку многія школы ў Лунінецкім і Пінскім раёнах, дзе дарослыя жыхары карыстаюцца чарнобыльскімі льготамі, а іх дзеці атрымліваюць у школе трохразовае бясплатнае харчаванне...

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

Хоць і кажуць, што тэлебачанне ніколі не заменіць добрую кнігу, але апошнім часам гэтае правіла не спрацоўвае. Усё больш і больш свой вольны час людзі бавяць, седзячы каля тэлевізара, хоць і папракаюць тэлебачанне, што яно нецікавае і прапагандуе насілле, без якога амаль няма ніводнага замежнага фільма. Нядаўна на прэс-канферэнцыі, наладжанай кіраўніцтвам сумеснага беларуска-амерыканскага прадпрыемства "Космас-ТБ" прагучала, што колькасць каналаў у сетцы кабельнага тэлебачання павялічана да 30. Да канца 2005 года практычна ўсе жыхары сталіцы будуць бавіць свой вольны час каля кабельнага тэлебачання. Да ўсяго "Космас-ТБ" прапануе сваім кліентам выбар каналаў па інтарэсах. Ужо ў сакавіку гэтага года будуць сфарміраваны тры новыя праграмныя пакеты — "Пазнавальны", "Забаўляльны" і "Фільмавы". І калі хто не хоча глядзець замежныя баевікі, можна і не рабіць гэтага, бо ёсць што і з чаго выбіраць. Да ўсяго ў другой палове 2002 года дабавяцца яшчэ два праграмныя пакеты: "Музычны" і "Сямейны". Адно, што можа засмуціць, — гэта тое, што ў гэтых праграмных праектах няма месца беларускай мове, бо "фірма будзе строга прытрымлівацца ўнутрыкарпаратыўнай палітыкі — максімум кабельнага вяшчання на рускай мове".

### ТАРЫФЫ ТЫДНЯ

Пастановай Міністэрства эканомікі падвышаны тарыфы на электраэнергію для насельніцтва. У кватэрах, абсталяваных электрычнымі плітамі, трэба будзе плаціць 17,4 рублі за адну кілават-гадзіну (такі ж тарыф і для вяскоўцаў). Гараджане, якія не маюць электрычных пліт, будуць плаціць 24 рублі за кілават-гадзіну. Здаецца, не так ужо і многа, але...

### ПРАБЛЕМА ТЫДНЯ

У мінулым годзе ў Мінску было зарэгістравана каля 1,5 тысячы асоб без пэўнага месца жыхарства — так званых бамжоў. У 2000 годзе такіх асоб у сталіцы было каля 1 тысячы. Большасць з бамжоў — гэта грамадзяне краін СНД, сярод якіх пераважаюць выхадцы з пралетарскага асяродка. Для бамжоў у Мінску працуе пакуль што толькі адна начлежка, якая разлічана ўсяго на 92 чалавекі...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Асоба Міхася Стральцова, яркая і шматгранная, была ў цэнтры ўвагі сустрэчы ў бібліятэцы СБП, на якую сабраліся навучэнцы навучальных устаноў сталіцы, калегі-пісьменнікі, усе тыя, для каго светлы і шчыры талент пісьменніка блізкі і дарагі.

Цёплыя словы на адрас юбіляра, якому б споўнілася сёлетнім летам 65 гадоў, гаварылі народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, а таксама Алесь Станюта, Уладзімір Гніламёдаў, Анатоль Кудравец, Міхась Тычына, Эдуард Акулін, Міхась Шавыркін, Людміла Давыдоўская і іншыя.

Прысутныя маглі паглядзець відэазапіс фільма пра Міхася Лявонавіча, які прадаставіла дачка пісьменніка Алеся.

Вёў вечарыну Навум Гальпяровіч.

**Н. К.**

●

Сіламі творчай суполкі "Літаратар", што па-ранейшаму працуе ў СБП, была праведзена вечарына, прысвечаная Дню святога Валянціна, якая сёлета праходзіла пад кіраўніцтвам Сяргея Патаранскага. У Вялікай зале Дома літаратара сабраліся маладыя паэты, празаікі, барды-спевакі і проста закаханыя. Гучалі вершы, песні, жарты, чыталіся ўрыўкі з празаічных твораў маладых аўтараў, удзельнікі абменьваліся невялічкімі падарункамі-"валянцінкамі". Варта адзначыць, што моладзь вельмі плённа і актыўна працуе ў суполцы, якой шмат сіл, як і заўсёды, аддае Алесь Масарэнка. Вера Міхайлава, Аліна Ануфрыенка, Вольга Кудзелька, Галіна Старажылава, Вікторыя Ляйкоўская, Наталля Вінчэўская, Яраслаў Жучкоў, Вольга Ціханович, Уладзімір Пінаеў, Аляксандр Васільеў, Ілля Ганевіцкі і іншыя кожны панядзелак збіраюцца ў Доме літаратара, чытаюць новыя творы, абмяркоўваюць планы на будучае.

**М. Р.**

●

Паступаюць першыя водгукі грамадскасці на сітуацыю, што склалася ў сувязі з перапыненнем фінансавання Саюза беларускіх пісьменнікаў і ўпартым маўчаннем уладаў. Рэзкую заяву на конт гэтага прыняў сакратарыят Таварыства беларускай мовы.

Словы спачування прыслаў Саюз пісьменнікаў Эстоніі і кіраўніцтва Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

*НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ*

# Юбілеям песняроў прысвячаецца

"Ад роднае зямлі, ад гоману бароў...", — так называецца сацыяльны праект Беларускага радыё, прысвечаны 120-годдзю з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Ён зацверджаны мастацкім саветам радыё і пачаў актыўна ажыццяўляцца.

Пад агульным лагатыпам па ўсёй сетцы вяшчання будуць матэрыялы адпаведнай тэматыкі. Падрыхтаваны спецыяльныя радыёкліпы з вершамі класікаў, аздобленых песнямі на іх словы.

Плануецца наладзіць прамыя радыёмасты з Масквой, Санкт-Пецярбургам, Кіевам, Варшавай, праз якія ад дзеячаў культуры гэтых гарадоў і дзяржаў, прадстаўнікоў нашых пасольстваў слухачы пачуюць, як шануюць нашых песняроў за мяжой Беларусі.

Прагучаць таксама матэрыялы карэспандэнтаў з мясцін, якія звязаны з жыццём і дзейнасцю класікаў беларускай літаратуры.

Да выканання праекта прыцягнуты журналісты Таццяна Малмыга, Алена Давідовіч, Васіль Макарэвіч, Галіна Шаблінская, Святлана Шаліма, Маргарыта Прохар, Крысціна Побаль і іншыя. Кардынатарам праекта прызначаны пісьменнік, галоўны рэдактар кардынацыйнай дырэкцыі Навум Гальпяровіч.

**Н. К.**

# Юрась, каваль з Гродна

Гродна ніколі не ўспрымалася на Беларусі як "пустое" месца ў сэнсе выяўленчага мастацтва. Там жывуць таленавітыя мастакі, прафесійныя і самадзейныя. У Гродне стала працуе кагорта, якая ўспрымае горад не як замшэлую правінцыю, а хутчэй як стартавую пляцоўку для далейшага развіцця. Сярод гродзенскіх мастакоў нямала вядомых (як Ю. Якавенка, В. Шоба, У. Панцялееў...). І вось у Музеі сучаснага мастацтва ў Мінску адбылося прадстаўленне яшчэ аднаго творцы з Гродна — Юрася Мацко. Мастак родам з Гродна, мае адукацыю архітэктара (БПІ). Сутнасцю ж яго творчага жыцця стала кавальства, якім Ю. Мацко прафесійна займаецца з 1990 г. Работы мастака ўпрыгожваюць сёння гарадское асяроддзе Гродна і вобласці, прыватныя інтэр'еры. Усе яго кампазіцыі адмаўляюць тыражаванасць і стандартызацыю, вызначаюцца высокім густам і віртуознасцю выканання.

Выстава Юрася Маско ў Музеі сучаснага мастацтва мае назву "Крыга". Так у народзе называюць кавалкі замерзлай вады, якія плывуць па рэках і пертвараюцца ў магутны лёд. Работы Юрася сапраўды падобныя на гнуткія жывыя лініі, якія складаюцца ў рухомыя кампазіцыі, што вельмі мала агульнага мае са





стэрэатыпнай ужытковасцю кавальскіх вырабаў. Тым не менш мастак свядома падкрэслівае сваю повязь з глыбокімі нацыянальнымі арыенцірамі. Фармальна гэта вызначаецца ў цытатах з народнай арнаментыкі, у выкарыстанні паганскай сімволікі ("Калядны маладзік", "Паганскі крыж"). Але галоўнае — духоўная арыентацыя Юрася Мацко на прыярытэты старажытнай Беларусі. Такое спалучэнне традыцыйнай народнай тэхнікі кавальства з сучаснымі мастацкімі формамі прыносіць плён, спрыяе ўваходжанню кавальства ў кола прафесійнага мастацтва.

**Н. Ш.**

*На здымках: Ю. МАЦКО падчас адкрыцця выставы; "Без назвы". Фота М. ПРУПАСА*

# Дыялог з перспектывай

Паэзія, проза, літаратуразнаўчыя пошукі былі тэмамі выступаў у Брэсцкім дзяржуніверсітэце пісьменнікаў Берасцейшчыны.

Так, вядомая паэтэса Зінаіда Дудзюк паўстала перад аўдыторыяй у нязвыклым амплуа даследчыцы. Яна пазнаёміла прысутных з новаю кнігай "Шляхамі адвечнага слова", якую прысвяціла вывучэнню вытокаў беларускай моўнай сістэмы, а таксама з іншымі выданнямі, што ўбачылі свет у апошнія гады.

Гэтаксама даследчыцкай дзейнасцю займаецца і празаік Валянціна Кукса, аўтар кнігі прозы "...І верыла ў цуд". Яна рыхтуе да друку метадычны дапаможнік па выхаванні, у якім, у прыватнасці, абвяргае агульнапрынятае меркаванне, што нованароджанае дзіцця — гэта чысты аркуш паперы або пластылін, з якога можна вылепіць каго захочаш. Валянціна Міхайлаўна — сама выхавальніца дзіцячага садка — перакanана: "...З дзіцяці не трэба вылепліваць тое, што нам падабаецца, дастаткова толькі дапамагчы яму як мага паўней выявіць тое, што ў ім закладзена на генным узроўні".

Пазнаёміліся ўважлівых слухачоў са сваёй творчасцю літаратары з Іванаўшчыны празаік Анатоль Крэйдзіч і паэт Андрэй Мазько.

Павесялілі аўдыторыю гумарыстычнымі карацелькамі-былямі выкладчык універсітэта, вядучы літстаронкі "Зараніца" ў газеце "Зара" Мікола Сянкевіч.

І ўсе разам — і выступоўцы, і студэнты — выказалі ўдзячнасць за арганізацыю сустрэчы Зоі Мельнікавай — кандыдату філалагічных навук, дацэнту універсітэта, аўтару шматлікіх публікацый пра літаратуру і літаратараў Берасцейшчыны. Зоя Пятроўна запэўніла, што падобны дыялог (гэткі ж жывы і зацікаўлены: пісьменнік — студэнт, можна дадаць — і выкладчык) будзе працягвацца ў БрДУ і надалей.

**Анатоль МІКАЛАЕЎ**

*Брэст*

ВІНШУЕМ!

# Дыплом "Ад Рахманінава"

Так, напэўна, можна вызначыць высокае творчае дасягненне Канстанціна Красніцкага. Малады беларускі піяніст, якога некалькі гадоў таму мы віншавалі з перамогай на Міжнародным конкурсе ў Заграбе, нядаўна паспяхова выступіў на III Міжнародным фартэпіянным конкурсе імя С. Рахманінава. З трох дзесяткаў удзельнікаў у фінал выйшлі шасцёра. Прадстаўнік Беларусі ўпершыню граў у ліку фіналістаў прэстыжнага музычнага турніру, на сцэне Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі, сярод легендарных выпускнікоў якой быў выдатны кампазітар і піяніст Сяргей Рахманінаў. Канстанцін Красніцкі годна вытрымаў канкурэнцыю і заняў высокае чацвёртае месца. Поспех музыканта (і ўжо маладога выкладчыка) падзяляе і яго настаўнік — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Уладзімір Няхаенка, пад кіраўніцтвам якога была падрыхтавана і гэта конкурсная праграма.

**Н. К.**



*На здымку: Канстанцін КРАСНІЦКІ і яго настаўнік Уладзімір НЯХАЕНКА*

ДАТЫ

# Беларускі Напалеон

Выхадам прыгожай кнігі, у якой на гістарычных малюнках паўстае вядомая і невядомая Беларусь, адзначана 195-годдзе з дня нараджэння Напалеона Орды. Адметная постаць у айчыннай культуры! Ураджэнец Варацэвічаў, што на Піншчыне, ён ужо там, у бацькоўскай сядзібе, атрымаў пачатковую музычную адукацыю, якую пазней, у сярэдзіне 30-х, развіў і ўдасканаліў у парыжскай эміграцыі, пазнаёміўшыся з Ф. Шапэнам ды Ф. Лістам. Тамсама, у Парыжы, атрымаў і ўрокі выяўленчага мастацтва.

Ён быў з пакалення тых, чый лёс вызначыла паўстанне. Але ён быў — мастак. Апынуўшыся на чужыне, шукаў творчага асяроддзя, таварышаваў з А. Міцкевічам, гарнуўся да артыстычнай эліты; дзякуючы Ф. Шапэну ды Ф. Лісту, прайшоў не толькі школу фартэпіяннай ігры, а і заняткі кампазіцыяй, плён якіх увасобіўся ў першых парыжскіх нотадруках Н. Орды. У сярэдзіне 40-х гадоў XIX ст. наш зямляк прыняў пасаду дырэктара Італьянскай оперы ў французскай сталіцы...

Мажліва, праявай менавіта беларускага менталітэту сталася імкненне Напалеона Орды з парыжскай багемы ў родны куток Палесся? Ён вярнуўся ў Варацэвічы ў 1856-м. Пазней з'ехаў у Гародню, потым — на Валынь. Даваў урокі музыкі, шмат падарожнічаў, працаваў як мастак, пакінуўшы ў спадчыну не адну сотню малюнкаў — неацэнных, эмацыйна кранальных і дакументальна дакладных адлюстраванняў харастваа беларускай зямлі, тады яшчэ не знявечанага выпрабаваннямі XX стагоддзя. Актыўна пісаў для фартэпіяна. Выдаў у Варшаве "Граматыку музыкі", ухваленую С. Манюшкам. Быў "беларускі Напалеон" і ў ліку заснавальнікаў Мінскага музычнага таварыства.

Нашы даследчыкі падкрэсліваюць, што Н. Орда меў вельмі цёплыя сяброўскія стасункі з Ф. Шапэнам, што сябраваў ён і з Ф. Лістам... Аднак непрадказальны лёс чалавечы ў варунках гісторыі! На тры гады старэйшы за Шапэна, Орда перажыў яго на 34. Да таго ж, пакінуўшы эміграцкае асяроддзе, апынуўся ў тагачаснай расійскай глушы. Ці не таму ў адной з самых цікавых і арыгінальных кніг пра Шапэна, якая належыць пяру геніяльнага музыканта і музычнага публіцыста Ферэнца Ліста, прозвішча Орды згадваецца толькі аднойчы, мімаходзь і з нейкай місцічнай недакладнасцю?

Працытую: "Ён (Шапэн. — **С. Б.**) пастаянна бачыўся з маладымі палякамі (Орда, які падаваў, здавалася, вялікія надзеі і забіты ў Алжыры ў дваццацігадовым узросце, Фантана, графы Платэр, Гржымала, Астроўскі, Шэнбек, кн. Казімір Любамірскі ды інш.)".

Ці быў гэта нейкі іншы Орда? Наўрад. Калі ж гаворка пра Напалеона, вялікую памылку вялікага Ліста можна растлумачыць так. У Парыжы Н. Орда з'явіўся 26-гадовым чалавекам. Быў 1833 год. У сярэдзіне 30-х Ліст з'ехаў з Парыжа, хаця потым і наведваўся туды. З Шапэнам адносіны меў складаныя (кантраст характараў, мастацкіх густаў, жыццёвых поглядаў), што, аднак, не перашкодзіла напісаць пра яго кнігу, прасякнутую шчырым захапленнем. Спачатку гэта была серыя артыкулаў, нарысаў у перыядычным друку, якая праз год выйшла асобным выданнем (1852 г.).

Даследчыкі сцвярджаюць, што ў 40-я гады Шапэн ставіўся да Ліста з дрэнна прыхаванай іроніяй, нават антыпатыяй, у перапісцы імя Ліста амаль не згадваў, сам пісьмаў яму ніколі не дасылаў... Дзіва што "Орда, які падаваў, здавалася, вялікія надзеі", адлюстраваўся ў Лістовай памяці 20-гадовым чалавекам, які быў "забіты ў Алжыры"! Забіты — забыты... Зрэшты — ці ён адзіны з нашых землякоў, якім быў наканаваны аналагічны "сіндром забыцця"?

Што б там ні было, а сёння імя Напалеона Орды, "беларускага Шапэна", калі хочаце, — у нашым культурным ужытку. Яго імем, яго розначаковай творчасцю цікавяцца землякі. Яго вальсы і мазуркі, паланезы і вакальныя творы ў абноўленым абліччы, дзякуючы рупліўцам нашага музычнага адраджэння, вяртаюцца да слухача.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# "Род" на "Зямлі людзей"

15 лютага ў Мінску адкрылася новая галерэя. Яна размешчана на вуліцы Рэвалюцыйнай, побач са Скарынінскім цэнтрам. Галерэя мае паэтычную назву "Зямля людзей", якая перакладаецца з назвы вядомага твора Экзюпэры. І гэта невыпадкова, бо ўладальнік галерэі грамадзянін Францыі Іў Прюд'он. Гэты першы ў нашай краіне прэцэдэнт такога роду культурнага супрацоўніцтва. Прэзентацыя галерэі была адначасова прэзентацыяй новай нізкі твораў вядомага мастака Уладзіміра Савіча.

Аўтар назваў свой графічны цыкл "Род" і прысвяціў сваім родным і землякам. Як і большасць твораў Савіча апошніх гадоў, гэтыя аркушы маюць філасофскі падтэкст і выклікаюць у думках гледача складаны асацыятыўны шэраг.

На прэзентацыі прысутнічалі калегі Уладзіміра Савіча, а таксама афіцыйныя асобы ад Французскай амбасады, Саюза мастакоў, Міністэрства культуры, журналісты. Усе, хто браў слова, выказвалі спадзяванне, што плёнам работы галерэі стане збліжэнне Беларусі і Францыі на глебе культуры.

Экспазіцыйная плошча галерэі невялікая. Яна разлічана на выставы камернага характару. Ёсць усе падставы меркаваць, што новая галерэя стане культурным асяродкам, прывабным для мінчукоў і гасцей нашай сталіцы.

**П. В.**

МЕРКАВАННЕ

# «З кутка жаданняў...»

Не так даўно мы адзначалі юбілей Івана Мележа. У нашай гісторыі літаратуры завяваў ён адно з найбольш пачэсных месц. Але памяць яго ўвекавечана не надта багата. І ў сувязі з гэтым я хачу зрабіць адну сціплую прапанову. Пасля вайны на працягу многіх гадоў Іван Мележ цэлымі днямі, не адрываючыся ад стала, працаваў ва Ўрадавай бібліятэцы, якая тады насіла імя М.Горкага. Тады яна знаходзілася ў левым крыле Дома ўрада на пятым паверсе. Сам Іван Мележ жыў не так далёка — на вуліцы Клары Цэткін, 19, у двухпавярховым жылым універсітэцкім доміку. Там на другім паверсе ён меў невялічкі пакойчык, у якім не было ніякіх умоў для сур'ёзнай творчай працы. Затое ж найлепшыя ўмовы былі ў бібліятэцы Дома ўрада. Тут Іван Мележ і чытаў усё, што яму трэба было, і пісаў апавяданні, раман «Мінскі напрамак» і ўсё, што ён задумаў. І працаваў ён небывала напружана. Я меў магчымасць бачыць гэта, бо сам з'яўляўся чытачом бібліятэкі з 1945 года.

Сёння ўжо бібліятэка перасялілася ў правае крыло і ў самы ніз. Называецца яна проста «Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь». Я думаю, што аўтар «Палескай хронікі» сваімі здзяйсненнямі заслужыў, каб бібліятэцы было прысвоена імя Івана Мележа.

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

АБСЯГІ

## ГОМЕЛЬШЧЫНА...

### У чаканні карагоду

Гомельскі гарвыканкам прыняў пастанову аб правядзенні ў верасні бягучага года трэцяга міжнароднага фестывалю харэаграфічнага мастацтва "Сожскі карагод". Створаны арганізацыйны камітэт. Да ўдзелу ў фестывалі запрошаны артыстычныя калектывы з Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі, Кітая і іншых краін. Зацверджаны склад рэжысёрска-пастановачнай групы. Абвешчаны конкурс сярод мастакоў і архітэктараў на лепшы праект афармлення фестывальнага горада.

### І прыгажосць, і боль

У палескім гарадку Хойнікі жыве вядомы на Гомельшчыне мастак Мікалай Асаўляк. Любімыя родныя мясціны ён з натхненнем адлюстроўвае ў сваіх жывапісных работах: "Прыгажосць Прыпяці", "Заліўныя лугі", "Бары"... На многіх палотнах майстра адлюстравана бяда Беларусі — чарнобыльская катастрофа. Мікалай Асаўляк удзельнічаў у справаздачнай выставе гомельскіх мастакоў "Адвечныя Палесся далягляды" ў сталічным Палацы мастацтваў.

Мастаку споўнілася 65 гадоў. З гэтай нагоды ў карцінай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў адкрылася персанальная выстава прац Асаўляка.

### Літаратурная майстэрня

Гомельская Славянская бібліятэка — цэнтр тутэйшага літаратурнага жыцця. У ёй пастаянна наладжваюцца творчыя вечарыны як мясцовых, так і сталічных пісьменнікаў. А нядаўна ў бібліятэцы створана творчая майстэрня пісьменніка Юрыя Фатнева. Ён — аўтар дзевяці паэтычных зборнікаў, піша прозу. Галоўная задача майстэрні, як сцвярджае літаратар, — удасканаленне творчага ўзроўню пачынаючых паэтаў і празаікаў Гомельшчыны.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## ВІЦЕБШЧЫНА...

### Шагал вяртаецца

Культурныя стасункі паміж Віцебскам і Парыжам у бліжэйшы час стануць больш шчыльнымі. Інтарэс абодвух бакоў падаграецца славутым імем Марка Шагала, 115-годдзе якога сёлета будзе адзначацца. Амбасада Францыі ў Беларусі згодна ўзяць на сябе ўсе фінансавыя расходы, каб паказаць французскага Шагала Віцебску, а віцебскіх мастакоў — Парыжу.

Восенню ў Мінску і Віцебску плануюцца выставы работ Марка Шагала, якія арганізуе ўнучка мастака Мерэт Мейер.

### Не толькі дырэктар і рэдактар

Гісторык Людміла Хмяльніцкая вядомая ў Віцебску не толькі як дырэктар музея Марка Шагала і галоўны рэдактар навукова-папулярнага часопіса "Віцебскі сшытак" (выдаецца па яе ініцыятыве з 1995 года). У яе выйшлі ў свет дзве кнігі: "Гісторык Віцебска" (жыццяпіс Аляксея Сапунова) і "На Белай Русі ў Сар'і".

На мінулым тыдні ў музеі Марка Шагала прайшла прэзентацыя гэтых надзвычай цікавых выданняў. На яе прыйшлі літаратары, гісторыкі, мастацтвазнаўцы, журналісты. Вёў вечарыну паэт Д. Сімановіч. Пісьменнікі Ф. Сіўко, А. Канапелька, мастацтвазнаўца А. Лісаў высока ацанілі работу Людмілы Хмялеўскай. Адзначаліся высокі прафесійны ўзровень і навізна выданняў. Дарэчы, нарысам з гісторыі маёнтка і роду Лапацінскіх "На Белай Русі ў Сар'і" Хмялеўская распачала новую серыю "Маёнткі і людзі". На чарзе ў аўтаркі — трэцяя кніга, назву якой яна пакуль трымае ў сакрэце.

**Святлана ГУК**

### І юбілей, і кніга!

Двайное свята адзначыў пісьменнік, дырэктар Глыбоцкай школы № 3 Віталь Гарановіч: да свайго 50-годдзя ён выдаў новую кнігу вершаў "Святло блакіту".

На ўрачыстасць з гэтай нагоды сабраліся паэтавы сябры, калегі, мясцовыя пісьменнікі. Увесь вечар гучалі песні на творы юбіляра ў выкананні кампазітара Ганны Шаколы і вакальнай групы...

Віталь Гарановіч нарадзіўся ў вёсцы Ермакі Маладзечанскага раёна на Міншчыне. Пасля заканчэння школы служыў у арміі, працаваў у выдавецтве "Вышэйшая школа", закончыў філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага. Чвэрць веку, палову пражытага, ён працуе на Глыбоччыне. Пісаць вершы пачаў у сёмым класе. "Хросным бацькам" сваім у паэзіі лічыць Міколу Чарняўскага, які апублікаваў яго творы ў часопісе "Бярозка". Друкаваўся Гарановіч на старонках розных перыядычных рэспубліканскіх выданняў, у тым ліку ў часопісах "Маладосць" і "Полымя". Мае паэтычны зборнік "Беразвечча".

Намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Навум Гальпяровіч сказаў цёплыя словы пра новую кнігу В. Гарановіча "Святло блакіту", якая выйшла ў выдавецтве "Кнігазбор".

**У. САУЛІЧ**

## ГРОДЗЕНШЧЫНА...

### Збіраюць гісторыю

Навагрудская цэнтральная раённая бібліятэка — адна з вядучых на Гродзеншчыне. Пазалетась яна заняла першае месца ў абласным конкурсе "Бібліятэка — інфармацыйны цэнтр". Як паведамляе галоўны бібліёграф установы Ірына Царук, супрацоўнікі бібліятэкі пяты год вядуць работу па складанні бібліяграфічных даведнікаў, спецыяльных спісаў літаратуры пра слынных мясцовых дзеячаў — пісьменнікаў, краязнаўцаў, гісторыкаў... Сярод іх А. Міцкевіч, Я. Нёманскі, Г. Шутэнка, Я. Драздовіч... Пералік імёнаў далёка не поўны. Праца бібліяграфічна-інфармацыйнага сектара прыносіць плён. Яна дапамагае аператыўна і якасна задавальняць чытацкія патрэбы, узбагачае і памнажае гістарычную спадчыну Навагрудчыны.

**Яўген ЛАПЦЕЎ**

## МАГІЛЁЎШЧЫНА...

### Кіно з Польшчы

У абласным цэнтры з 25 па 28 лютага пройдзе пяты, юбілейны, фестываль польскага кіно. Мерапрыемства арганізавана пры падтрымцы Польскага Інстытута ў Мінску, Польскага дома ў Магілёве і кінавідэапрадпрыемства "Пазірк". У кінатэатры "Радзіма" будуць дэманстравацца самыя касавыя мастацкія стужкі. Гледачы сустрэнуцца з польскімі акцёрамі, прымуць удзел у падвядзенні вынікаў віктарыны "Ці ведаеш ты польскае кіно".

### Медаль — паэту

Магілёўскаму паэту Васілю Рагаўцову з нагоды 50-гадовага юбілею ўручаны медаль Францішка Скарыны. Днямі юбіляр сустрэўся з вучнямі сярэдняй школы № 6. Перад юнымі чытачамі выступілі сам Рагаўцоў і ягоны калега па пісьменніцкай працы Сяргей Украінка.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

**ПАПРАЎКА**

*Подпіс пад публікацыяй "Першы выхад на сцэну" ў "ЛіМе" за 15.02 г.г. трэба чытаць так: "Аляксей САЛАДУХІН, дырэктар Гродзенскага дзяржаўнага музычнага вучылішча".*

ЛІНІЯ ЖЫЦЦЯ

***Перыядычна адчуваю непераадольную патрэбу ў адзіноце: бесперапынны паток шуму пагражае паражэннем нервовых цэнтраў, адказных за адэкватнае ўспрыманне рэалій. А шум усюды. Шум трамваяў, аўтамабіляў, шум натоўпу, псеўдаінфармацыйны шум радыё-тэлебачання, шум тэатральна-эстрадны, друкаваны шум са старонак газет, часопісаў, кніг, кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый...***

***Перыядычна адчуваю непераадольную патрэбу ў чалавеку: высілкі трансфармацыі шуму — нават пры паспяховым выніку — патрабуюць саўдзелу, без якога не бывае поўнага адчування перамогі. А чалавек патрэбны не ўсялякі, а толькі той, які таксама іншым разам мае патрэбу ў адзіноце...***

***Такія людзі ў мяне ёсць. Я стараюся лішні раз не абцяжарваць іх сваёй прысутнасцю, даволі ведаць, што ёсць чалавек, здольны да су-стварэння, су-мыслення, су-прычыненасці, ёсць чалавек, здольны да ўчынку...***

***Перыядычна адчуваю непераадольную патрэбу падзяліцца з людзьмі: шумлівы натоўп павінен нарэшце адчуць, што ёсць іншыя законы існавання, што дадзеныя чалавеку розум і дар мовы неабавязкова выкарыстоўваць для таго, каб жыць нікчэмна.***

***Васіль Аляксеевіч ГАРУС, дырэктар бюро міжнароднага маладзёжнага турызму “Спадарожнік” г. Мінска, якраз з тых людзей, якія здольныя на ўчынкі і ідуць на су-працоўніцтва.***

***Знаёмства наша з Васілём Аляксеевічам і пачалося якраз з учынку.***

***На пасадзе кіраўніка “Спадарожніка” ён 18 год. А пазнаёміліся мы з ім крыху больш за дзесяць год таму. Былі часы крушэння савецкай імперыі, забароны камуністычнай партыі, абструкцыі камсамолу. На той час, час так званага “жнівеньскага путчу” 1991 года, я працаваў галоўным рэдактарам камсамольскай газеты “Знамя юности”. За плячыма ўжо быў арышт “путчаўскага” нумара газеты, доўгія месяцы следства і першы вопыт фінансава-гаспадарчай дзейнасці ў абсалютна новых палітычных і эканамічных умовах. Высветлілася: ля кіраўніцтва камсамольскай арганізацыяй рэспублікі апынуліся людзі, дамінантай паводзін якіх стала адступніцтва, здрада, хлуслівасць і прыстасаванства. Яны чакалі краху маладзёжнай арганізацыі і гэтым чаканнем той крах абумовілі. Але крах быў трошкі пазней. Пакуль жа камсамольская вярхушка скіравала свой прагны позірк на камсамольскую маёмасць. Адным з самых смачных кавалкаў была газета “Знамя юности”. Маючы тыраж звыш 500 тысяч экземпляраў, яна давала велізарны прыбытак. На гэтыя грошы і разявіліся камсамольскія лідэры: газетны рахунак быў заблакіраваны. А тым часам выдавецтва “Беларускі Дом друку” паставіла ўмову: праз месяц лінатыпная тэхналогія вытворчасці газеты закрываецца і неабходна будзе здаваць арыгінал-макеты, зробленыя на камп’ютэры. Усе астатнія газеты пераходзілі на новую тэхналогію без спешкі, на працягу года. “Знамя юности” зрабіла гэта за месяц. Зрабіла, дзякуючы ўчынку Васіля Аляксеевіча Гаруса.***

***Як я ўжо казаў, рахунак газеты быў заблакіраваны камсамольскімі лідэрамі, і набыць неабходную тэхніку рэдакцыя не магла.Яе купіў і падарыў рэдакцыі Васіль Аляксеевіч Гарус. Гэта каштавала не толькі вялікай сумы грошай, а магло пазбавіць Васіля Аляксеевіча пасады, што азначала крутую перамену лёсу. Тым не менш Гарус, нягледзячы на адкрыты ціск камсамольскіх лідэраў, рызыкнуў.***

# Мая вёска дае мне сілы

**— Васіль Аляксеевіч, чаму вы пайшлі на гэты ўчынак?**

— Бюро міжнароднага маладзёжнага турызму ды яшчэ штаб будаўнічых атрадаў — гэта былі дзве структуры ў камсамоле, якія заўсёды займаліся канкрэтнай, рэальнай справай. Натуральна, і бачанне працэсаў, што адбываюцца ў краіне, у нас вельмі адрознівалася ад бачання тых, хто карміўся з палітыка-ідэалагічных догмаў. Мы таксама мелі магчымасць выязджаць за мяжу і бачылі, як жывуць людзі там, *бачылі тэндэнцыі, што праяўляюцца* ў нас. Яшчэ да развалу Савецкага Саюза мы пачалі работу па акцыяніраванні і да жніўня 1991 года ўжо выйшлі з-пад палітычнай апекі камсамола. Калі б мы гэта не зрабілі, то пасля жніўня 1991 маглі б таксама апынуцца пад забаронай, а значыць, будучыня арганізацыі была б вельмі і вельмі цьмянай.

Я ніколі не прылічваў і не прылічваю сябе да вялікіх рэфарматараў і дэмакратаў. Я ніколі не адракаўся і не ганьбіў мінулае, у якім вырас, сфарміраваўся. Але я ніколі слепа не трымаўся за мінулае. І тая ж камуністычная ідэалогія нас вучыла дыялектыцы — законам развіцця грамадства, згодна якой любая з’ява заўсёды знаходзіцца ў руху і зменах. Газета “Знамя юности” ўзору 1991—1992 гадоў якраз і станавілася на шлях аб’ектыўнага адлюстравання зменлівай рэчаіснасці. Такая пазіцыя абурала і аганізуючых камуністаў, і агрэсіўных дэмакратаў. А я хацеў, каб грамадства развівалася ў адпаведнасці з сусветнымі законамі эвалюцыі. Любое перапыненне эвалюцыі вядзе да контрпрадуктыўных вынікаў. Разумеў і разумею гэта не толькі свядомасцю, але і нейкім унутраным чуццём, якое і вымушае тое ці іншае рабіць.

Так што, адказваючы на ваша пытанне, зазначу, *што ў мяне на той час не было* іншага варыянту паводзін. Калі б перамаглі думкі пра тое, наколькі гэта небяспечна для сябе самога, то знікла б маё ўласнае Я, самаліквідавалася. І, відаць, не сядзелі б мы зараз разам і не размаўлялі...

**— Адбылося тое, што я называю інстынктам духоўнага самазахавання. Г. зн. калі прымаецца рашэнне, якое можа пагражаць камфорту і самазахаванню сацыяльна-бытавому, але затое дае права быць выхавальнікам уласных дзяцей. Мяне заўсёды цікавіў генезіс духоўнасці інстынкту, і адной з важнейшых крыніц яго ўзнікнення лічу геаландшафтны і сацыяльна-бытавы асяродак.**

— Я нарадзіўся ў вёсцы Ласасін Пружанскага раёна. Побач з вёскай пачынаецца Белавежская пушча. За 200 метраў ад нашага дома было возера, у якім пры польскім часе разводзілі ласося. Магчыма, адсюль і пайшла назва вёскі, якая вядома з пачатку XVIII стагоддзя. Усе мае продкі спрадвеку жылі тут. Вёска наша — за 10 кіламетраў ад Ружан, дзе знаходзіўся замак Сапегаў, якія і валодалі ўсім наваколлем. Замак добра захаваўся да сярэдзіны 40-х гадоў мінулага стагоддзя. Стаяў бы ён і сёння, каб у час вайны незадоўга да вызвалення раёна ад *нямецкіх захопнікаў яго не ўзарвалі* партызаны. Навошта гэта было зроблена, застаецца загадкай, хутчэй за ўсё, каб напярэдадні вызвалення прадэманстраваць бурную дзейнасць. Родзічы Сапегаў і сёння жывуць у Англіі, і іншым разам наведваюць Ружаны. Улады паспрабавалі рэстаўраваць замак, але спроба была няўдалая.

Рос я, як і ўсе сялянскія дзеці, сялянская работа мне добра вядома з маленства. Бацька працаваў на смалакурні, быў майстрам, а пасля і дырэктарам гэтага прадпрыемства. У 1986 годзе памерла мама. Падчас фашысцкай акупацыі яна прымусова была вывезена на работу ў Германію, што, мусіць, і падарвала яе здароўе. Так што трагедыя вайны закранула і мой лёс. Дзявоцкае прозвішча мамы было таксама Гарус. Увогуле, людзі з прозвішчам Гарус жывуць толькі ў нашай вёсцы, больш нідзе Гарусаў я не сустракаў. Ёсць меркаванне, што род наш паходзіць з Прыбалтыкі, які пад ціскам нямецкіх рыцараў у свой час перасяліўся ў лясныя гушчэчы.

*Мы раслі ў такіх умовах, што з’яўляліся* часткай навакольнага асяроддзя. Зімой у лесе шышкі сасновыя збіралі, летам і ўвосень грыбы, ягады, пасвілі кароў, якіх выганялі да ўсходу сонца: белы туман сцелецца, рыба ў возеры плёскаецца...

А з першым маразам выбягалі на возера, на лёд. Лёд тонкі яшчэ, празрысты. Ляжаш на жывот — кожную ракавінку ўгледзіш, кожную водарасць. Настаўнікі не дазвалялі бегаць па лёдзе, баяліся за нас. Возера даволі глыбокае, і ўлетку некалі там утапіўся салдат...

**— Васіль Аляксеевіч, вы расказваеце пра свае мясціны, нібы паэт.**

— Ну, каб любіць свой край, зусім неабавязкова быць паэтам. Хаця паэтаў з нашай вёскі, здаецца, і не выйшла, але шанаваць сваю прыроду ўмеюць многія, як і любіць літаратуру.

Павінен сказаць, што ў мяне былі вельмі добрыя бацькі. І калі што харошае ў мяне ёсць, дык гэта ў першую чаргу ад іх. Ды і ўвогуле ў нас усе людзі неблагія. Добры быў у нас і старшыня калгаса. Жыў не толькі адной працай, а ўмеў заўважаць і ствараць прыгожае. Любіў паляванне, любіў прыроду, капаў у наваколлі сажалкі, ладзіў жыццё ў вёсцы. Яго ўспамінаюць добрым словам і дагэтуль.

**— Пашанцавала вам са старшынёй, Васіль Аляксеевіч. Можна толькі па-добраму пазайздросціць. А мне вось былі знаёмыя такія, што ў цётак на спінах ношку з саломай падпальвалі. Можа, вам яшчэ і на школьных настаўнікаў пашанцавала?**

— І вельмі. Беларускую мову і літаратуру выкладаў Мікалай Андрэевіч Пянко, які працаваў у школе яшчэ пры польскіх уладах. Рускую літаратуру — Тамара Іванаўна Люкевіч, матэматыку — Іван Міхайлавіч Макарэвіч. Ён *не толькі быў выдатным настаўнікам, але і* нашым сябрам. Ці ўбачыце дзе вы сёння, каб настаўнік гуляў з вучнямі на перапынку ў шахматы? А Іван Міхайлавіч гуляў. Дзякуючы яму і я стаў матэматыкам.

Пасля школы паступаў у Маскоўскі інжынерна-фізічны інстытут. Але не хапіла аднаго бала, і мусіў вярнуцца дамоў. Помню, было вельмі крыўдна, не за сябе, за настаўнікаў, за тое, што не апраўдаў іх давер.

У гэтае ж лета я быў накіраваны райкомам камсамола на працу ў васьмігадовую школу вёскі Клепачы настаўнікам матэматыкі. Я сам канчаў гэтую васьмігодку, бо ў нашай вёсцы была толькі пачатковая школа, а ў дзевяты-дзесяты класы хадзілі ў Варанілавічы. Год я да прызыву ў армію выкладаў матэматыку ў 4-5 класах. Многія вучні былі з нашай вёскі, і мы разам хадзілі ў школу і са школы. У школе я быў для іх Васілём Аляксеевічам, а па дарозе дадому — Васькам. І сёння, праз трыццаць гадоў, я магу ганарыцца сваімі вучнямі. Усе, каму я закладваў азы матэматыкі, закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы, а адзін нават авіяцыйны інстытут. Так, у мяне не было педагагічнага вопыту, але затое было шмат энтузіязму і я, сам учарашні школьнік, добра адчуваў, што патрэбны дзецям.

*Пасля арміі я, здаўшы на пяць вусны* экзамен па матэматыцы — паколькі школу скончыў з залатым медалём, — быў залічаны на факультэт прыкладной матэматыкі Белдзяржуніверсітэта.

**— Васіль Аляксеевіч, роля настаўніка матэматыкі ў вашым жыцці зразумелая. Але з такой шчырай удзячнасцю ўспаміналі вы настаўнікаў літаратуры...**

— Перакананы: чалавек не можа лічыць сябе чалавекам, калі не прачытаў у дзень хаця б пару старонак з якой-небудзь добрай кнігі. У маім жыцці такога не было. У дзяцінстве маці часта адбірала кнігу, бо не клаўся спаць, а чытаў.

Я не буду ацэньваць школьныя праграмы, але думаю, што нас лепш вучылі літаратуры. Успамінаю, як вывучалі класіку. Па-першае, абавязкова чыталі твор, па-другое, дэталёва разбіралі кожны вобраз, кожны характар, высвятлялі, пры якіх умовах фарміраваўся і выяўляўся кожны герой. А сёння твор не чытаюць, можна купіць гатовае сачыненне.

Літаратура пасеяла ў маёй душы здольнасць *да спачування, узаемадапамогі, перажыванне* за лёс радзімы, яна напрамую фарміравала мяне як чалавека, бо была не прадметам, па якім я атрымліваю веды, а — самім жыццём. Такім, які ёсць, я стаў дзякуючы літаратуры і настаўнікам літаратуры. І я не шкадую, што такі, а не іншы.

**— А творы якіх пісьменнікаў для вас настольныя?**

— Люблю і часта перачытваю Чэхава і Зошчанку. Яны вельмі актуальныя пісьменнікі і ў наш час дапамагаюць мне быць аптымістам.

**— Васіль Аляксеевіч, тэма, узнятая намі, абавязвае мяне спытаць пра вашы адносіны да рэлігіі...**

— Пачну з таго, што вёска наша праваслаўная па веравызнанні і ў ёй была праваслаўная царква. Там мяне і хрысцілі. А ў 1965 годзе, заўважце, дзеючую, знеслі. Царкву расцягнулі па бярвенню, а з іх зрабілі ў Клепачах спартыўную залу. Кіраваў усім гэтым працэсам настаўнік фізкультуры. Крыху пазней у яго загінула маленькае дзіця, а неўзабаве памёр і ён сам.

Я добра памятаю святчэнніка, што служыў у нашай царкве. Усевалад Антонавіч быў чалавекам энцыклапедычных ведаў. Выпісваў багата ўсемагчымай літаратуры, шмат чытаў і мог даць вычарпальны адказ на любое пытанне. Пахаваны Усевалад Антонавіч на могілках побач з маімі бацькамі.

Зараз унук Усевалада Антонавіча працуе ў нас святчэннікам. Жыве ў Варанілавічах у дзедавым доме, на працу ездзіць у Ружаны. Я хачу дапамагчы яму аднавіць разбураную ў 1965 годзе царкву.

Завяршаючы адказ на гэта пытанне, заўважу, што рэлігія, як і літаратура, звяртаецца да глыбінь чалавечай сутнасці і духу, а значыць, і роля яе пры разумным і сумленным выкарыстанні, велізарная і стваральная.

**— Сапраўды, Васіль Аляксеевіч, усяму, што вас акаляе, як прырода, гэтак і людзі, можна толькі зайздросціць.**

— Так, мне шанцавала на добрых змястоўных людзей. І ва універсітэце, і ў час працы ў камсамоле, ды і цяпер ёсць з кім сябе параўноўваць і да каго прыслухоўвацца. Мне пашчасціла працаваць і сутыкацца з людзьмі, якія на той час шмат чаго пабачылі і шмат што вызначалі ў жыцці. Наша пакаленне не ваявала — ваявалі нашы бацькі. І мы раслі ў атмасферы іх успамінаў, іх расказаў. Я памятаю, калі на свята Перамогі ў вёску па ветэранаў прыязджала пяць машын. Выязджалі на месцы баявых дзеянняў, успаміналі, а мы чулі іх расказы *і як бы самі станавіліся* ўдзельнікамі тых падзей.

А нядаўна ў маёй вёсцы памёр апошні ўдзельнік вайны. І менавіта наша пакаленне становіцца носьбітам памяці. Для нашых дзяцей гэта ўжо вельмі далёкая гісторыя і, на жаль, яны ўжо не адчуваюць усёй трагедыі Вялікай Айчыннай.

**— Ці часта бываеце на радзіме?**

— У мяне там жывуць родная сястра, цёткі, так што бываю, хоць, можа, і не так часта, як хацелася б. У прынцыпе, жыць патрэбна там, дзе нарадзіўся, але, як вы разумееце, сёння гэта немагчыма. Таму бываю наездамі. Нельга перадаць словамі пачуццё, якое адчуваю пры наведванні вёскі. Відаць, як здарожаны вандроўнік прагне прыпасці да крыніцы са студзёнай вадой, гэтак і чалавек мае неабходнасць убачыць радзімыя хаты. Гляджу на іх, што сталі занадта нізкімі, на вуліцы, што зрабіліся вузкімі, і з’яўляюцца вера і надзея, і хочацца хоць што-небудзь зрабіць для людзей, якія жывуць тут.

Сёння вёска старэе, памірае. Але мая паміраючая вёска дае мне сілы. Праз гэты распад трэба прайсці, і, я перакананы, вёска адродзіцца. Адраджэнне ж магчыма толькі тады, калі з’явіцца гаспадар. Мой дзед Сцяпан быў не бедны *чалавек. А дзед па маме дык і ўво*гуле быў чалавекам багатым. Калі прыязджаю ў вёску, амаль заўсёды наведваю месца, дзе былі зямельныя надзелы маіх дзядоў. Адзін участак зарос лесам, і там зараз я збіраю грыбы, на ўчастку другога дзеда зараз паша. Веру,



нашчадкі дзядоў і прадзедаў вернуцца на сваю *зямлю, калі не дзеля бізнесу і заробкаў,* дык хаця б дзеля памяці, таму што тут жылі продкі.

**— Васіль Аляксеевіч, слухаю вас і нібы зноўку чытаю развагі Івана Ільіча пра адарванасць ад каранёў. “Інстынкт не звязанага з зямлёй пазбаўлены каранёў і бесприпутульны: ён застаецца прадастаўленым уласнаму эгаізму, жыве адным днём, задыхаючыся, патанаючы ў клопаце і залежнасці ад будняў, без мінулага і сучаснага, прыслухоўваючыся да ўсялякіх мудрагельстваў і утопій... Ці не першая культура — зямельная? І сапраўды, там, дзе прыходзіць у заняпад зямельная культура, гіне ўсялякае матэрыяльнае і духоўнае жыццё, спыняецца ўсялякая стваральнасць і ўсялякая культура становіцца ўяўнай...**

**Адрыў ад каранёў — вялікая небяспека ў сучасным свеце, жыццё, якое страціла карані, становіцца ненатуральным, пазбаўленая каранёў душа — бязбожнай. Потым наступае развязка: чалавецтва разбураецца”.**

**Вы, як бачна, адчуваеце моцную повязь з каранямі, разумееце важнасць добраўпарадкавання зямлі і чалавека на ёй. Мусіць, адсюль і вашы працоўныя здабыткі?**

— Сёння ў рэспубліцы працуе каля 500 турыстычных фірм. Канкурэнцыя на рынку гэтых паслуг стала велізарная. “Спадарожнік”, лічу, захаваў сваё дамінуючае становішча і сетку сваіх арганізацый у краінах СНД. Узнікшы ў 1958 годзе пасля міжнароднага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве пры ЦК ВЛКСМ, “Спадарожнік” сёння ператварыўся ў акцыянернае таварыства і ў гэтай якасці адсвяткаваў сваё 40-годдзе. Магу смела засведчыць: у кожным рэгіёне былога Савецкага Саюза ў нас ёсць свае людзі, якія на самым высокім узроўні здольны прыняць любую дэлегацыю. Цэны на турыстычныя паслугі ў нас, бадай, адны з самых нізкіх у рэспубліцы. Мы захавалі свой твар як бюро менавіта маладзёжнага турызму. Арганізуем шмат *падарожжаў і экскурсій па родным краі,* па літаратурных мясцінах у Вязынку, Мікалаеўшчыну, Навагрудак, Бярэзінскі запаведнік, Белавежскую пушчу. Мы можам забяспечыць змястоўны і камфортны адпачынак у любой краіне далёкага і блізкага замежжа.

Мы стварылі сумесную нямецка-беларускую фірму, пабудавалі ў Мінску Міжнародны адукацыйны цэнтр з гасцініцай, рэстаранам, канферэнц-залай і абсталяваннем для сінхроннага перакладу. Тут штогодна праводзіцца да 200 мерапрыемстваў.

**— Дзякуй, Васіль Аляксеевіч, за гутарку. Газета “Літаратура і мастацтва” жадае, каб усе вашы праекты і задумы збыліся.**

**Павел ВЕРАБ’ЁЎ**



**ЧАСАПІС**

## “Эўрыка”



**З 1998 года выдавецтва “Юнацтва” выпускае зборнікі “Эўрыка”, падзагаловак якіх дакладна вызначае змест кніг: “Гісторыя. Адкрыцці. Знаходкі. Парады”. Толькі што пабачыў свет чарговы выпуск, укладальнікам якога з’яўляецца Н. Філіповіч. Адкрываецца кніга нарысам А. Марціновіча “Слаўны сын слаўнага Полацка”, у якім падрабязна прасочваецца жыццёвы шлях і дзейнасць Ф. Скарыны. У раздзеле “Відавочнае — неверагоднае” сабраны матэрыялы, якія, несумненна, выклічуць цікавасць не толькі ў *дзяцей малодшага і сярэдняга* школьнага ўзросту, каму “Эўрыка” найперш адрасуецца, а і ў кожнага, хто возьме зборнік у рукі: “Феномен Маўглі”, “Хлопчык, які бачыць скрозь сцены”, “Прачнуцца раніцай і загаварыць на чужой мове”, “Музыканты-вундэркінды”. Феналагічны эцюд “Дзень цёплага Аляксея”, напісаны А. Наварычам, прапануецца ў раздзеле “З Чырвонай кнігі Беларусі”. Аўтар сведчыць: “...ёсць такі дзень у гадавым календары, калі свеціць яснае сонейка, ціха, ветру няма, спяваюць першыя птушкі, а з-пад карчоў, з глыбокіх нораў на сугрэтую сонцам веснавую зямлю выпаўзаюць вужы і жабы. Гэта і ёсць Дзень цёплага Аляксея. Выпадае ён з *году на год трыццаць першага сакавіка*”. А. Наварыч і расказвае займальна, як адбываецца ў гэты дзень абуджэнне прыроды, калі ўсё жывое прагне далейшага жыцця. З выдатнай пісьменніцай-адраджэнкай можна сустрэцца ў раздзеле “Пошукі. Адкрыцці. Знаходкі”. Называецца матэрыял “Зельнік Зоські Верас”. А прадстаўляе гэтую “добрую чараўніцу”, як называе яе, У. Ягоўдзік: “Як вельмі дарагую памятку я берагу ксеракопію гэтай невялічкай кніжыцы, выдадзенай у 1924 годзе. Называецца яна — “Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік”. А падарыла мне незвычайны зельнік з сардэчным надпісам яго аўтарка — Зоська Верас. *Такі псеўданім* выбрала сабе ў маладосці Людвіка Антонаўна Сівіцкая-Войцік, якая пражыла амаль цэлы век (1892—1991), і да апошніх дзён захавала светлы розум, незамутнёную гадамі памяць”. Аўтар працягвае: “Мне пашчасціла сябраваць з Людвікай Антонаўнай, шмат разоў быць госцем у яе лясной хатцы на ўскраіне Вільні. Гаспадыня ахвотна расказвала пра свае незабыўныя сустрэчы з Максімам Багдановічам, паказвала часопіс “Заранка”, які выдавала ў 30-я гады XX стагоддзя для беларускіх дзетак, а таксама месячнік пчалярства “Беларуская борць” — яшчэ адно надзвычай цікавае выданне, створанае ў той жа час *нястомнай руплівіцай. А вось першай* асобнай і, бадай, любімай кніжкай Зоські Верас быў менавіта “Батанічны слоўнік” з цудоўнай прадмовай”. Прыводзіцца і гэтая прадмова: “Чалавеку цікаўнаму, знаёмаму з назовамі раслінаў у яго роднай мове, і то з назовамі не штучнымі, выдуманымі, часта народнымі, кожная раслінка, кожнае зелейка раскажа не толькі дэталі свайго ўласнага жыцця, гісторыю свайго роду, але ж таксама напомніць аб той ролі, якую яно іграе ў жыцці нашых сялян, у іх медыцыне і варожбах. Часта адно характэрнае названне раскрые перад нашымі вачыма ўсю паэтычнасць і багатую фантазію нашага народу...” У. Ягоўдзік знаёміць з некаторымі раслінамі, *апісанымі Зоськай Верас, расказвае пра* іх лекавыя і іншыя ўласцівасці. Кожнай прысвечаны як бы невялікі раздзельчык: “Сватаяннік, або Святаянскае зелле”, “Крываўнік”, “Цыкорыя-мацаўнік”, “Залётнік, “Васількі”, “Рамонкі”, “Званочкі”, “Піжма”, “Дзівасіл”. Ёсць у зборніку і раздзел “Юнаму эрудыту”. Г. Шэршань тэмай сваёй гаворкі выбраў такую: “Чаму лекі такія розныя”. Гэта і свайго роду як бы гісторыя медыцыны, бо прыводзяцца разнастайныя звесткі аб тым, як чалавек вучыўся берагчыся ад розных хваробаў: “Першыя лекі”, “У пошуках універсальнага лякарства, або Гісторыя некаторых панацэй”, “Удасканаленне лекаў”, “...І атруты, і лекі, *або Пошукі каштоўнай меры*”, “Стварэнні “магічнай кулі”, “Вызначэнне іншых шляхоў уздзеяння на хваробы”, “Вынаходніцтвы шпрыцоў для ўлівання”, “Заключэнне, або Адказ на галоўнае пытанне”. А на завяршэнне прапануюцца “Парады дамавічка” — “Як вызначыць свой тэмперамент”.**

**Алег ГУЛІЦКІ**

# Скразная лінія паэта

Леанід ГАЛУБОВІЧ

*“Пасля добрай кніжкі вершаў — як пасля ліпеньскай навальніцы: дыхаецца лёгка і глыбока”.*

**А.КАСКО**

Няма сумнення, што кожны сур’ёзны паэт перыядычна разважае над сутнасцю і плёнам сваёй творчасці. Пытанні — *што, як, навошта, каму і дзеля чаго?* — не пакідаюць яго галавы ні ў час душэўнага раздраю, ні ў перыяд грамадскіх катаклізмаў, ні ў хвіліны натхнення і жыццёвай эйфарыі...

Класічнае шэкспіраўскае пытанне: *быць ці не быць?* — ёсць і пытаннем мастацкай творчасці.

Безумоўна, што ўсім хочацца *быць*. Больш за тое — *застацца*. Але — як, якім чынам гэтае жаданне спраўдзіць? Можна задаць пытанне прасцей і дакладней: як паэту і творчаму чалавеку ўвогуле спраўдзіць сябе, пакінуўшы чалавецтву, узамен свайго кароткага зямнога існавання, свае мастацкія адкрыцці

Можна сінанімізаваць гэтыя назовы ў своеасаблівы літаратурны рад: ПАЧАТАК — МЭТА — ДАРОГА — ЖЫЦЦЁ...

Альбо: СЛОВА — ШЛЯХ — ПЕРААДОЛЕННЕ — ЛЁС...

Ужо з першых кніжак, вычуўшы нутром сваё духоўнае прызванне, паэт паставіўся да ўласнага жыццёвага кону з усёй магчымай адказнасцю. Рэдкі верш у яго быў прахадным, а слова падманным. Так, яно яшчэ магло быць выпадковым, немілагучным і каструбаватым, але заўжды — шчырым і безабаронным у адносінах да выяўленых ім рэчаў і дзей. Шчасціла яму і на слынных настаўнікаў (Уладзіміра Калесніка, Міколу Купрэева, Алеся Разанава), і на таленавітых сяброў (Міколу Пракаповіча, Анатоля Шушко, Васіля Сахарчука, Ніну Мацяш)...

Няшчасціла часцей, аднак, доля ведала сваю меру...

Галоўнае — быў зададзены лёсавызначальны пастулат: *“Не сілю сябе пісаць, калі*

***а ці ёсьць жыцьцё паміж***
***росквітам і адцьвітаньнем?***

Тут міжволі *“задасіся Акудовічавым пытаннем”* свайго небыцця не толькі ў літаратуры, але і ўвогуле... І само вершаскладанне, раптам, можа падацца не паэзіяй, а проста *рамяством*, як вось у гэтым аднайменным вершы:

***Калі ў свой лёс бракуе веры,***
***няшмат і ў слове глыбіні.***
***Як часта мы ўскладняем вершы,***
***каб не спрасьціць іх да гульні.***

Але гэта — *“усё словы, словы, словы”*... Іх плоць, закарэлая і, паводле Гумілёва, *“дурно пахнущая”*, дыхціць тытунём і капустай з вуснаў шасці мільярдаў падобных да цябе людзей... І тыя вульгарна-будзённыя словы пад сілу ўтаймаваць толькі сапраўднаму майстру, калі на дапамогу яго сляпому натхненню і празорлівай інтуіцыі прыходзіць помны і мудры, але не казённы вопыт пражытага:

і духоўныя “запаветы”?

Аматары абыякавага жыцця могуць пасміхнуцца, чытаючы гэта, але тыя, хто спрабуе ўразумець непаўторнасць чалавечай асобы пад высокім боскім небам, пагодзяцца, што лёс паэта ствараецца самім Словам. А ўжо словы аплятаюць той лёс драматычнымі калізіямі, бо патрабуюць высокай кроўнай платы за кожны свой знак на папірусе вечнасці...

Вось як гэта выяўлена ў адным з вершаў Алеся Каско:

***Нібы вязень, імкнуўся да волі —***
***волі слова, яго хараства.***
***І, зазнаўшы пакутаў, засвоіў***
***я прыроду свайго рамяства.***

Імкнуцца да волі, а зазнаць пакуты? — калі не абсурдная, то парадаксальная сітуацыя, аднак, настолькі бясспрэчная і зразумелая ў нашай грамадскай рэчаіснасці, што дзіву даешся, як не ўцямяць таго некаторыя цяперашнія “барацьбіты” за волю, а па сутнасці — нявольнікі свабоды... у тым ліку і людзі ад літаратуры...

Можна напісаць процьму прыгожых слоў, так нічога і не сказаўшы. Бо перш, чым напісаць слова, трэба напоўніць яго энергіяй душы і падпітаць высокай духоўнай верай, засцярогшы, пэўным чынам і да пэўнага часу, бы громаадводам, — свой зроблены ці яшчэ магчымы зямны грэх ад Божага гневу...

Паэт ёсць сімвалам духоўнасці асобнага чалавека, а паэзія — сімвалам духоўнай эвалюцыі ўсяго чалавецтва. Вядома, суб’ектыўна і смела заяўляю гэта, аднак небеспадстаўна. Бо вось жа працытую некалькі асабліва важных для майго разумення Слова-Бога і *Бога-слова* радкоў з “Боскай камедыі” вялікага Дантэ Аліг’еры ў рускім перакладзе М.Лазінскага (папярэдне перапрашаю ў А.Хадановіча і У.Скарынкіна):

***Когда правдиво речь твоя звучала,***
***Ты дал смутиться духу своему, —***
***Возвышенная тень мне отвечала. —***

***Нельзя, чтоб страх повелевал уму;***
***Иначе мы отходим от свершений,***
***Как зверь, когда мерещится ему,***

І наўздагон — яшчэ гэтыя, што здымаюць усе чалавечыя пытанні наконт Слова, не даючы адказу па сутнасці:

***“О, если б слово мысль***
***мою вмещало, —***
***Хоть перед тем, что взор***
***увидел мой,***
***Мысль такова, что мало***
***молвить: “Мало!”***

***О, Вечный Свет, который***
***лишь собой***
***Излит и постижим и, постигая,***
***Постигнутый, лелеет образ свой!”***

Ненавязлівы паэтычны сімвал нябачным ценем суправаджае ўсю творчасць паэта Алеся Каско. Давайце толькі ўслухаемся ў тонкую метафорыку назоваў яго кніжак у тым парадку як яны выходзілі ў свет: “ВЕСТКА”(1979) — “СКРАЗНАЯ ЛІНІЯ”(1982) — “НАБЛІЖЭННЕ”(1989) — “ЧАС ПРЫСУТНАСЦІ”(1994)...

*не пішацца, сілю — жыць, калі жыць не хочацца...”*

І ўжо ад самага “вытоку” было намацана “дно” жыцця, яго крэўнае апірышча: Айчына, род, мова, любоў і вера... Можа таму і была такой адчайнай яго мальба на ўласных творчых “заручынах” з Музай:

***О лёс мой, выказацца дай,***
***не забяры мяне заўчасна***
***у тую далеч, дзе так часта***
***мне будзе сніцца любы край.***
. . . . . . . . . . . . . . . . .
***Не стане моцы — і няхай! —***
***у памяці, руцэ, у зрэнцы...***
***Усё вазьмі — і толькі сэрца***
***пакінь і выказацца дай.***

Праблем з выбарам Айчыны ў людзей не бывае. У кожнага яна ёсць ад пачатку — тая ці іншая, але — адзіная да скону. І нашая любоў ці нянавісць да яе, як ні дзіўна, роўназначныя, бо — роднасныя і сыноўнія. Адсюль, як да прыкладу, у Алеся Каско — дзве палярна-прыцягальныя (закон магнетызму) праявы душы да аднаго цэлага:

***Ты, народ мой, — не слабы.***
***Дзецюкі! Слязу сатрыце,***
***для вялікае касьбы***
***свае косы нагастрыце.***
***Біце ў звон ва ўсе канцы***
***ў непахіснасці і веры.***
***Сёння вы яшчэ касцы,***
***заўтра вы — касіянеры.***
***Заўтра — з крыўдай змагары,***
***ганьбаю, жыццём ярмовым***
***і, бог дасць, гаспадары***
***і зямлі сваёй, і мовы.***

Гэта з верша “1862 год. Слова Каліноўскага”, напісанага напрыканцы 80-х, у стыхійна-адраджэнскі час перабудовы. А вось матыў з самай песімістычнай кніжкі Алеся Каско “45”:

***Здавалася б: ну, вось ён, Храм,***
***што збудавалі пакаленьні!***
***Стаў на парог — а ў храме Хам***
***сагнуў калені не ў маленьні.***
***Сядзіць і гнюсіць на алтар***
***ахвяр, што мерлі за свабоду.***
***Ён — валадар, ён — гаспадар***
***свайго прыходу і смуроду.***
***А людзі тупа на брыду***
***ўтаропіліся, бы авечкі...***
***...Я нізавошта не ўвайду,***
***не запалю ў тым храме сьвечкі.***

Сярэдзіна дзевяностых гадоў, на мой погляд, стала пераломнай у творчасці Алеся Каско.

Тады, здавалася, усё, што ты спарадзіў, выняньчыў і ўзгадаваў у глыбокім таемстве сваёй душы, усе тыя спадзевы і праявы новага “суверэннага” жыцця, як люстэрка ў хаце нябожчыка, захінуліся чорным сукном жалю і самоты... Паэты могуць перажыць і знесці ўсе нягоды жыцця пакуль у іх ёсць асабісты творчы храм, што засцерагае ад замаху злых і варожых іх духу сіл. Аднак было б здрадай чытачу схавацца там адно толькі для малітвы дзеля захавання ўласнай душы, нібы манаху ў сваёй манастырскай келлі. Паэзія, адмежаваная ад людскога свету, страчвае сваё галоўнае прызначэнне — быць духам над прахам... Бо калі наступае духоўны крыз, то чалавек як бы апынаецца адразу на двух шалях адных вагаў: што ж пераважыць і ці не лепш трымаць раўнавагу?

***І стаіць такая ціш,***
***што вярэдзішся пытаньнем:***

***Над старасьцю,***
***над непазбежным горам***
***таймуем гукі, фарбы — гэтак творым***
***з пагрозьлівага сьвету***
***ўласны сьвет.***

Галоўнае тут захаваць *самасць*: не купіцца на пустое і не прадацца за грош. І ў расе і ў слязе бачыць не бліскучае, а блізкае табе да спазмаў сэрца: ці то траву пад вострай касой ці то мацярынскія вейкі перад чорным векам... Жыццё адольвае ўсё...

Новая кніжка Алеся Каско “Трохкроп’е” засведчыла, што “адраджэнне з попелу” — гэта не толькі міфалагема, але і метафарычная праява сучаснай рэчаіснасці. Праўда, мне, як і беларускай граматыцы, больш імпануе слова “шматкроп’е”. Кажуць, што я ім часта злоўжываю... Гэтым разам свядома “злоўжыў трохкроп’ем” і Алесь Каско, мабыць, маючы на ўвазе тры раздзелы зборніка (вершы, пераклады і запісы). Відаць, тым самым аўтар як бы хацеў *паставіць* тры паасобныя кропкі ў сваёй творчасці, гэткім чынам засярodзіўшы ўвагу на ўласнай літаратурнай пунктуацыі сваіх (і нашых!) нешматлікіх чытачоў. Дарма. Бо зноў жа — куды ні кінь вокам па кнізе — самае малое, на што яе змест, як і форма, дарэчы, напрошваюцца — гэта *шматкроп’е...* і магчымае абяцанне працягу... І хоць асобныя вершы паэта завуаліраваныя эзопавай мовай, падтэкстамі і двухсэнсоўнасцю, чаго вымагае наш зарэжымлены часцэнзар, аднак, паўвекавога аўтара, патанкаўску беспардонна, *“выдае попел”*, хоць ужо сівы і халодны:

***А з выракаў ды злых папрокаў***
***так шырака расце мана,***
***што ўзносіць люд ілжэпрарокаў,***
***пакольկі... праведных няма.***

Альбо:

***Дай мне, доля, за Ракаю***
***бераг росны, трапяткі,***
***каб забраць я мог з сабою***
***веры й мовы чарапкі.***
***Хоць на сколках незлічоных***
***хай крынічыла б святло...***
***калі ж не — дай чорны човен,***
***каб нічога не было!***

Бо — *“Гідка думаць, што я паэт: / / у айчыне — ды без Айчыны...”* Шчыра кажучы, гэтыя думкі небяспечныя самі па сабе, і, крый Божа, ім матэрыялізавацца (ёсць такая кішэнна-багемная тэорыя пра матэрыялізацыю мастацкага слова), хоць зразумець аўтара можна, прыпомніўшы, да прыкладу, выдатныя, вышэйпрацытаваныя тут, радкі: *“Усё вазьмі — і толькі сэрца / /пакінь і выказацца дай”.* Што праўда, то неўзабаве паэт спрабуе як бы апраўдацца перад чытачом за гэты свой душэўны нечалавечы адчай:

***Немагчыма было ўжо вярнуцца***
***да ранейшых сябе, да ветру і свету,***
***а ўрэшце і да несапраўднага***
***жыта —***
***гэта жыта без васількоў.***

Калі хто не зусім разумее, пра што тут рэч, то нагадаю пра вызначэнне Максімам Багдановічам паэзіі, як “чыстай красы”, а яшчэ эсэ ў “ЛіМе” чатырохгадовай даўнасці Алеся Разанава “Жыта і васілёк”, не выключаючы адсюль, безумоўна, і сучасных грамадска-палітычных падтэкставых паралеляў. Хлеб надзённы і хлеб духоўны — непадзельныя, гармонія

---

*Алесь Каско, “Трохкроп’е” (вершы, пераклады, запісы). Брэст, Выдавецкі дом С.Лаўрова. 2001г.*

ўраўнаважвае чалавечае жыццё і засцерагае свет ад хаосу — вось тэзы, якія паэт спрабуе творча, а значыць, суб'ектыўна трактаваць. (Тэмы не новыя, але — што "новае пад сонцам"? — хіба што наш погляд на гэтыя тэмы.) Ды ў параўнанні з Эклезіастам, Алесь Каско яшчэ які прасветлены аптыміст! А значыць, недалёка той час, калі цёмны начны полаг спадзе з усходу і сонца нарэшце высвеціць любы наш край сярод людскага свету...

***Інакшы храм і час. І плач***
***тут не ўспрымаецца сур'ёзна.***
***Не спавядайся ж гэтак слёзна,***
***памерлай музыкі скрыпач!***
***Над муміямі слёз не льюць,***
***дык прэч адсюль, каб недзе босым,***
***расхрыстаным — зайграць нябёсам:***
***яны шчэ здатныя пачуць.***

Па тэксце зборніка адчуваецца, што "жніво душы" яшчэ не пачалося, бо яшчэ палавее жыта і спеліцца зерне ў коласе... але спавядальныя ноткі ў голасе ўжо трымцяць на вуснах вялікага грэшніка... А як гэта іначай назваць, калі нават пра каханую паэт піша дагэтуль у беларускай паэзіі малачуванае: *"Ты мне ў душу жыццё ўдыхнула, / / калі пакінула мяне".* Альбо, як без трымцення сэрца чытаць такія пранізлівыя радкі:

***Адно за адным***
***аблічча знікалі — знікалі, як дым.***
***Усім,***
***Каму быць мог за роднага брата,***
***хто судзіў непрадузята***
***ды з бязладдзя вярнуцца мне***
***радзіў, —***
***я здрадзіў.***
***Няма іх, чакай не чакай...***
***Ты — не самая большая страта.***
***Бывай.***

Аднак усё часцей і часцей з'яўляецца ў паэта адчуванне гатоўнасці, як *прыняць дар* (плён творчасці), так і *стрымаць удар* (аўтарскую няўдачу). Адсюль і гэтае самаўшчуванне, а мо папярэджанне іншым:

***Паболыш бы ў песні светлыні,***
***паболей звонкасці, спакою...***
***Ды стане песня не маёю,***
***не пра мае раскажа дні.***
***Сярод маны і мітусні***
***ёй сорамна перад сабою***
***ўзнікаць з прытворнага настрою,***
***з азартнай слоўнае гульні.***

Прызнаюся, як чытач, я насцярожана чакаў разрадкі ад *"сціснутай у адным сэрцы"* празмернай негатыўнай энергетыкі, якую паэт прыняў на сябе ад акаляючага свету, але ўсё ж я не верыў, што чалавек, які жыў любоўю і дабром, можа загінуць пад навісным над ім варожым прэсам зла і нянавісці. Толькі б самое сэрца яго вытрывала той бязмерны напор зямнога дабра і любові — вось што трывожыла мяне... І хоць чакаў я менавіта апафеозу паэзіі, але ўсё адно быў агаломшаны, здзіўлены і збіты з інтэлектуальнага панталыку гэтымі пяццю заключнымі (для мяне) радкамі пакаяльнай *евангельскай* паэзіі:

***Было княтліва, скрушна ўчора,***
***а сёння — Бог даў —***
***дзень як дзень.***
***За шклом з дажджынак незлічоных***
***грак мільгануўся — чорны-чорны,***
***як быццам вылецеў з грудзей.***

Апошні радок, на маё меркаванне, — "томов премногих тяжелей"...

Дзякаваць Богу, жыццё ўзяло верх. Паэзія трыумфуе. Чарговы паэт з перыферыі зноў "напляжыў" у *банкетнай зале сталічнай багемы*, не прамінуўшы напаследак заявіць і такое:

"Кепска не тое, што пішам кепскія вершы, — ад гэтага ніхто не застрахаваны, — а тое, што кепскія вершы друкуем. Яны рана ці позна "ўсплываюць на паверхню", і тады одумнаму аўтару (графаману, зразумела, усё роўна) сорамна за іх. Нават калі іх не крытыкуюць, а, наадварот, хваляць у артыкулах, уключаюць у тэматычныя зборнікі, чытанкі, альманахі, дэкламуюць са сцэны. З аўтарам, як правіла, не раяцца, бяруць на свой густ, і нічога не зробіш: што апублікавана — ужо не зусім тваё... Зведаўшы ўсё гэта на сабе, думаю не без самаіроніі: ці цалкам праўдзівы лацінскі крылаты выраз scripta manent (напісанае застаецца)? Застаецца надрукаванае, і, на жаль, не толькі тое, што вартае заставацца".

Што праўда — то праўда. А што можна дадаць да самой праўды? Хіба яшчэ раз ненавязліва падкрэсліць самабытны і выбітны па сённяшнім часе талент паэта Алеся Каско. Не для таго, каб помнілі, што *ёсць*, а для таго, каб ведалі, што — *будзе*...

КНІГАРНЯ

# Кавалачак пакінутай душы

Калі сустракаеш у друку прозвішча Ніны Рыбік, міжволі прыгадваеш вядомае выслоўе: "Не было б шчасця, дык няшчасце дапамагло". Рэч у тым, што Н. Рыбік засведчыла аб сабе як аб пісьменніцы пасля чарнобыльскай трагедыі. І на тое больш чым значныя падставы. Н. Рыбік і да гэтага пісала, а тут катастрофа, якая болем адгукнулася ў душы кожнага беларуса. У дачыненні ж да Н. Рыбік яна стала і асабістай трагедыяй: родная вёска пісьменніцы Уласы сёння не існуе, а да аварыі яна была адной з самых прыгожых у Хойніцкім раёне. Развітанне з людзьмі, многіх якіх ведала з маленства, пакінула глыбокі след у душы. Праз некаторы час захацелася пра іх расказаць, узнавіўшы тое, што адбывалася ў першыя паслячарнобыльскія дні. Так і нарадзілася задума апавядання "Эвакуацыя".

Гэты твор увайшоў і ў кнігу прозы Н. Рыбік, што стала майскім зборнікам "Бібліятэкі часопіса "Маладосць" за сёлетні год. Згаданым апавяданнем кніжка і адкрываецца. Трэба аддаць належнае Н. Рыбік: ёй удалося багаты фактычны матэрыял падаць такім чынам, што апавяданне не перанасычана ім. Галоўная ўвага пісьменніцы звернута толькі на тое, што ў шэрагу падобных выпадкаў значна выйграе сваёй падзейнай асновай, нясе важкую нагрузку, дазваляючы за прыватным убачыць агульнае, паглядзець на тое, што адбывалася, як мага праўдзівей і аб'ектыўней. А ў выніку з некалькіх дзесяткаў жыхароў вёскі, якая сутыкнулася з нябачнай дагэтуль бядой, сталі тыя, праз чые паводзіны, псіхалогію можна ўбачыць і адчуць паводзіны ўсёй грамады.

Пра кожнага з іх Н. Рыбік гаворыць не шмат, але гэтага дастаткова, каб упэўніцца, што кожны з іх па-свойму адметны, індывідуальнасць, а таму мае ўласнае меркаванне наконт таго, пакуль невядомага, што абрынулася на вёску. Вось, для прыкладу, Алена, якая, як і заўсёды, у працы, вольнай хвіліны не знаходзіць. У жудаснасць здарэння яна не хоча верыць, ды і не можа: "Пакуль да нас тая радыяцыя дойдзе, дык з яе не застанецца нічога". Страшна, што абыякава да ўсяго ставіцца і мясцовая фельчарка. Страшна па той прычыне, што з-за свайго няведання наступстваў катастрофы, яна, не жадаючы таго, прымушае аднавяскоўцаў забываць аб асцярожнасці. А калі нічога страшнага, дык — калі ласка: "Хай не брэшуць!" — тонам, што не цярпеў пярэчанняў, заявіла чырванашчокая Дуня. — Я вось учора малака напілася, колькі мне ўлезла, а сёння баршчу з маладога шчаўя наварыла і так усмак пад'ела. І нічога. І ўчора нічога не балела, і сёння не баліць. Няма тым вучоным чаго рабіць, дык вось і выдумляюць абы-што".

Апавяданне "Эвакуацыя" — па сутнасці стэнаграма страшных дзён. Але Н. Рыбік не проста канстатуе факты, а ўважліва прыглядаецца да людзей, перадае тое, што ў іхніх душах, а таму, дзякуючы гэтаму псіхалагічнаму заглыбленню, стэнаграма паступова ператвараецца ў кардыяграму жыцця вёскі на працягу часу, які, па волі абставін, азнаменаваў сабой пераход ад дачарнобыльскай эры да паслячарнобыльскай. Уражваюць старонкі, дзе расказваецца пра высяленне вёскі. Нават каровы адчуваюць бяду і таму плачуць. Аленін жа сабака не хоча заставацца ў вёсцы:

"— Сабака ўткнуў морду ў рукі гаспадара і ціхенька заскуголіў. Пятро ўстаў, адвярнуўся, каб не бачыць гэтых умольных вачэй:

— Рэкс, я каму сказаў? Дадому!

Сабака лёг на зямлю, паклаў морду на лапы і працягваў жаласна скуголіць.

— Рэкс, марш адсюль! — ужо прыкрыкнуў гаспадар з прыступкі аўтобуса.

Сабака мацней заскуголіў, але з месца не крануўся. Урэшце ўпаўнаважаны не вытрымаў:

— Ладна, бярыце і сабаку. Калі будзе добра паводзіць сябе ў аўтобусе — давязём да месца, калі не — выганім па дарозе".

Сама праўда жыцця ў гэтых і іншых эпізодах. А праўда такая, што часам драматычнае ўжываецца з камічным. Трэба ж было аднаму вяскоўцу, які і дагэтуль быў ахвочы да чаркі, якраз чарговы раз пайсці ў загул. Калі выйшаў з лазні, вёска амаль цалкам апусцела. Няйначай вайна, падумаў. А пасля апомніўся: "Ды не можа быць?.. Хай тры дні я ў лазні сядзеў, — няўжо за гэты час столькі ўсяго нарабілася?"

Творы, што ідуць следам за "Эвакуацыяй", — лёсы людзей, якія, не па сваёй волі развітаўшыся з роднай вёскай, мусілі пачаць новае жыццё. І ніяк не могуць прыстасавацца ў ім. Быццам пачалася нейкая чорная паласа. Роздум Вольгі, гераіні аднайменнага апавядання (гэты твор, а таксама "Васіль Іванавіч", "Дзед Андрэй", "Алесь", "Наташа" аб'яднаны ў цыкл "Перасяленцы"), характэрны ў тым сэнсе, што нешта падобнае адбывалася (дый адбываецца і па сённяшні дзень) і з іншымі "чарнобыльцамі": "Яна ўсё капалася ў душы, шукала, хто ці што вінаваты ў яе незлічоных бедах. І ўрэшце вырашыла для сябе — пераезд. Каб не гэта, жыла б яна ў сваёй хаце і бяды не знала. А ў хату іх, сястра стрыечная казала, так ніхто і не засяліўся, стаіць да гэтага часу замкнёная". А ламае Чарнобыль лёсы не толькі тых, хто трапіў пад яго ўздзеянне.

Што гэта так, лішні раз упэўніваешся, калі знаёмішся з апавяданнем "Алесь". Хлапец пакахаў дзяўчыну, праз некалькі дзён павінна адбыцца вяселле. На жаль, яно так і не адбылося, бо дзядзька гэтай дзяўчыны, які любіць яе як сваю дачку, супраць. Пры гэтым кіруецца нібыта найлепшымі намерамі: "Я разумею, вы асабіста і вашы блізкія ні ў чым не вінаватыя. Вы сталі свайго роду заложнікамі, ахвярамі. Але я не хачу, каб такой ахвярай стала мая адзіная пляменніца, яе будучыя дзеці". Ад падобнага таксама нікуды не падзенешся, бо ў нечым чалавека можна зразумець. І не думае гэты добразычліўца, што тым самым пазбаўляе шчасця Алеся. Галоўнае для яго, каб усё ладзілася ў пляменніцы: "Нічога, нічога, — барабаніў пальцамі па аконным шкле генерал, пазіраючы як шпаркім крокам пераходзіць вуліцу Алесь. — Усё будзе добра. Супакоіцца — і ён, і яна. Можа, і дрэнна паступілі з хлопцам, можа, ён і нічога сабе. Але чарнобылец.... Здароўе — гэта галоўнае, без яго шчасця не будзе. А яго любімая Танюшка павінна быць шчаслівай. Ён дзеля гэтага зробіць... Усё!"

Але ў Н. Рыбік не толькі "чарнобыльскія" творы. Яе ўвогуле цікавяць неардынарныя людскія лёсы, нечаканыя сюжэтныя сітуацыі. У гэтым упэўніваешся і апавяданне "Млынарова вяселле". Галоўны герой немалады ўжо дзяцюк, які прывык паболыш браць ад жыцця, чым аддаваць яму. Праўда, у працалюбстве яму не адмовіш, а вось да ўзаемаадносін з цудоўнай паловай чалавецтва ён ставіцца не асабліва сур'ёзна. Правільней, ставіўся, бо цяпер, калі пражыта нямала, з'явілася магчымасць многае пераацаніць. І зразумеў Янук, што некалі маладзенькая бібліятэкарка, якая нарадзіла ад яго дзіця, была адзіным ягоным каханнем. Хацеў было праз некаторы час адумацца ды, як кажуць, найшла каса на камень. Зоська таксама паказала характар. Цяпер Януку сын дарослы, ідзе ў войска. Янук не супраць, каб ажаніцца на Зосьцы. Але з яе вуснаў гучыць тое, што і павінна было б прагучаць, калі прыняць пад увагу характар жанчыны, умудронай жыццём: "Рашуўся-такі. Па праўдзе кажучы, раней чакала. Бачыла, што без нас жытка ў цябе, што страва без солі. Ды не ішоў. Крыўдавала. Не за сябе — за сына. Плакала. А потым змірылася. Думала, ужо не прыйдзеш. Але ж во рашыўся. Ды толькі не ў мяне пытай, прабачэння прасі — у сына. Як ён даруе, бацькам назаве, то што ж? Я таіцца не буду — аднаго цябе ўсё жыццё любіла, даўно ўсё даравала. Але Алеся няволіць не стану".

Уладзіліся адносіны Янука і Зоські, чаго не скажаш пра герояў апавядання "Быў май і быў кастрычнік". Ды і хіба так лёгка развязаць той вузел, які ўзнік у іх узаемаадносінах. Дырэктар школы кахае жанатага мужчыну, а ў яе закахаўся адзін з маладых настаўнікаў, маладзейшы на дзесяць гадоў. Хоць справа не ў адным узросце. Гэты настаўнік — родны сын таго каханка. Сапраўды ўжо: "быў май і быў кастрычнік". А за ўсім — само жыццё. З усімі яго складанасцямі. Жыццё, якое так глыбока спасцігае Н. Рыбік у сваіх творах, прыглядаючыся да чалавека, спасцігаючы яго як асобу.

У Н. Рыбік няма апавяданняў "прахадных". Можна, канечне, гаварыць пра тое, што адны напісаны лепш, іншыя, у параўнанні з імі, прайграюць, а то і менш псіхалагічныя, але ў той жа час кранаюць непаўторнасцю лёсаў. Часам пісьменніцы па-добраму зайздросціш: умее ж выбіраць такія сітуацыі, якія пачынаюць "спрацоўваць". І нават у апавяданнях, у якіх спачатку вока затрымліваецца на тым, што выглядае вельмі ж знаёмым. Як у апавяданні "Вяртанне", калі маладая яшчэ жанчына завітвае ў прыёмную старшыні калгаса. Сакратарка яго паводзіць сябе, як і паводзяць сябе ў падобных выпадках іншыя жанчыны, якія знаходзяцца пры начальстве і хочуць засведчыць, як шмат ад іх залежыць. Думаецца, Н. Рыбік празмерна запыняе ўвагу на ёй. Але чытаеш апавяданне далей, і адразу адчуваеш: твор атрымаўся. Зноў жа, дзякуючы неардынарнаму лёсу: жанчына, якая завітала да старшыні калгаса, некалі пакінула гэтую вёску. Ды і старшыню, як высвятляецца, яна ведае. А той паводзіць сябе нахабна, самаўпэўнена. І папракае, што пакінула некалі родныя мясціны. Па логіцы, з ім нельга не пагадзіцца. Сам жа ён не паехаў... Але чым больш прыглядаешся да гэтага "начальніка", тым больш пераконваешся, што нічога святога ў яго за душой няма. Словы, якія прамаўляе ён, толькі на першы погляд справядлівыя. На самай жа справе іншае трымае гэтага маладога самадура ў вёсцы: ён ведае свае магчымасці, таму разумее, што ў іншых месцах такую пасаду ніхто яму не дасць. Цяпер жа, бачачы, што гэтая жанчына нікуды ад яго не дзенецца, зневажае яе, як можа. І прапаноўвае працу не па спецыяльнасці, хоць і ёсць вольнае месца бухгалтара. А калі жанчына гаворыць, што пастараецца аддзячыць, "вусны старшыні расцягнуліся ў салодкай усмешцы, а вочы заблішчэлі". Ён то ведаў, якога "аддзячання" хоча, тым больш, што муж яе памёр...

Як у пераважнай большасці апавяданняў Н. Рыбік, важкую нагрузку нясе заканчэнне твора. Яно пратакольна кароткае, але гаворыць вельмі шмат: "...Ні аддзячыць старшыню, ні трапіць у бухгалтэрыю Таццяна так і не паспела: двух тыдняў працы на вагавой пад пранізлівым восеньскім ветрам і дажджом у лёгенькім палітончыку і дзіравых туфельках ёй хапіла, каб трапіць у бальніцу з двухбаковым запаленнем лёгкіх. Адтуль яна ўжо не вярнулася... На пахаванне старшыня выдзеліў труну і машыну, але сам не прыйшоў — палічыў, што будзе зашмат гонару. Пахавалі Таццяну побач з бацькамі, яе адзінага сына забрала да сябе ў горад сястра".

У канцы зборніка стаіць нарыс "Спатканне з радзімай" — расказ пра тое, як аўтарка разам з беларускімі пісьменнікамі прымала ўдзел у Днях беларускай літаратуры на Палессі", што праходзілі з нагоды выхаду ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1996 годзе кнігі "Прайсці праз зону". У гэтым зборніку, дарэчы, было змешчана і яе апавяданне "Эвакуацыя". Згадваючы родныя мясціны, Н. Рыбік зазначае, што яны для яе "кавалачак радзімы, кавалачак пакінутай душы". У сувязі з кнігай "Эвакуацыя" апошнія словы набываюць і іншы, яшчэ больш глыбокі сэнс. На старонках гэтага зборніка таксама кавалачак пакінутай душы пісьменніцы, бо толькі палюбіўшы персанажаў, як блізкіх і дарагіх табе людзей, аддаўшы ім сваю душу, можна пісаць так праўдзіва, быццам жывучы іх жыццём, якое не заўсёды простае, але вартае таго, каб пра яго ведаць.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

 ЧАСАПІС

## “Гнёздаў родных цяпло”

Яшчэ адна цудоўная кніга пабачыла свет у выдавецтве “Юнацтва”, а тое, што выйшла яна ў серыі “Школьная бібліятэка”, асабліва радасна, бо зборнік “Гнёздаў родных цяпло” складаецца з твораў, якія арганізатары ўрокаў пазакласнага чытання ў пачатковай школе з поспехам выкарыстаюць у сваёй рабоце, а гэта значыць, што хлопчыкі і дзяўчынкі далучацца да чароўнага роднага слова, а праз яго — у кнігу ўвайшлі як вершы, так і апавяданні — лепш спасцігнуць навакольны свет, адчуюць хараство прыроды, палюбяць Радзіму. Кожны з аўтараў, а гэта Віктар Гардзей, Казімір Камейша, Рыгор Ігнаценка, прапануе творы, што лёгка запамінаюцца, нясуць у сабе важкі выхаваўчы сэнс. І кожны вядзе з дзятвой даверлівую, зацікаўленую гаворку. А першым бярэ слова В. Гардзей — прызнаны майстра як у галіне дарослай, так і дзіцячай літаратуры.

Слова слухаецца В. Гардзея, а сітуацыі,



у якія трапляюць яго героі, часам выклікаюць добрую ўсмешку, а гэта прыцягвае яшчэ большую ўвагу да твораў. Асабліва калі нешта незвычайнае адбываецца з добравядомым героем, а ў В. Гардзея гэта найперш Заяц. З ім можна сустрэцца шмат у якіх вершах. Для прыкладу, у “Зайчыкавых нотах”:

*У музычнай школе*
*Зайчык дзень прабыў.*
*— До-рэ-мі — фасоля! —*
*Ноты ён вучыў.*

*Потым ля загона*
*Рваў стручкі за трох*
*І спяваў натхнёна:*
*До-рэ-мі — гарох!*

Асобны раздзел называецца “Хітры Вася”. У яго ўвайшлі жарты пра дзяцей. Таксама творы надзіва дасціпныя:

*На сцежку верабей прысеў,*
*А тут і голуб падляцеў.*
*Смяецца радасна Андрэй:*
*— Вось верабей! Вунь галубей!*

У творах К. Камейшы асабліва адчувальна любоў да роднай прыроды. Шмат якія вершы нагадваюць сабой як бы выразна пададзеныя малюнкі, народжаныя шчодрым пэндзлем мастака. Адкрываецца падборка вершам “Роднае”:

*Можа, ён з песні самой узнік,*
*Гэты край,*
*І мячом, і нарогам мечаны.*
*Тут яго халоднасць,*
*ляднік,*
*Гуляў калісьці ў каменьчыкі.*

Прырода для паэта — не проста кніга, якую можна чытаць бясконца, захапляючыся ёю, а свайго роду — Біблія. Адзін з вершаў так і называецца — “Зялёная біблія”:

*Кнігу пушчы сваёй*
*Перачытваў я неаднойчы.*
*І чытаў яе так,*
*Ажно слепнулі вочы.*

А яшчэ яе трэба перадаваць нашчадкам:

*О зялёная біблія*
*Долі маёй высакосная!*
*Можа, я і зайздроснік таму,*
*Што мой лёс незайздросны.*

*Перад тым як цябе*
*Перадам я нашчадку,*
*Перачытаю старонкі ўсе*
*Ад пачатку.*
*І дажджамі вачэй сваіх*
*Словы я ўсе наноў перамыю.*
*Трэба кнігу яму перадаць мне,*
*А не стыхію.*

Рыгор Ігнаценка выступае з апавяданнямі. Ён адзін з нямногіх беларускіх пісьменнікаў, хто ў сваёй творчасці нязменна прытрымліваецца па сутнасці адной тэмы — тэмы прыроды. І творы, прадстаўленыя ў кнізе “Гнёздаў родных цяпло”, пацвярджаюць, наколькі аўтар умее быць арыгінальным, “спяваючы” сваю песню Бацькаўшчыне.

**Алег ГУЛІЦКІ**

ПАЭЗІЯ

Васіль ЖУКОВІЧ



# “На тым стаяў і стаю...”

•

*Сэрца я сваё транжыру*
*з легкадумнасцю юначай,*
*хоць і радзілі мне шчыра*
*навучыцца жыць іначай:*

*без эмоцый, асцярожна*
*жыць, каб лепей захавацца...*
*Навучыцца, мабыць, можна...*

*Не хачу жыцця баяцца!*

•

*Што са мной, не пытайце ў мяне, дарагія.*
*Сакрушае, мардуе мяне алергія.*

*Алергія на што? — б'юся месяц*
*другі я. —*
*На пустыя рублі ці на чэргі даўгія,*

*ці на тое, што ў розныя ўлажу даўгі я,*
*рэагую так востра? — ў мяне алергія.*

*Гэта ўсё — толькі повад,*
*прычыны — другія:*
*з'явы болей балючыя, з'явы ліхія —*

*прысак, попел Чарнобыля,*
*цень Курапатаў...*
*Беды у глупстве чыноў*
*і ў жывучасці катаў,*

*беды ў здрадзе, халуйстве,*
*учынках паскудных,*
*у хранічных грахах, беды*
*ў снах непрабудных.*

*Ажно пухне душа ад даўжэзнае ночы.*
*Не запухлі б ніколі відушчыя вочы!*

*Бачу ўсё: і журбу, і галечу, і гора.*
*Праўды бура, ляці да народнага мора...*

*Па радзіме свабоднай маёй насталыгія...*
*А на ўсякі палон у мяне — алергія.*

## Пад наркозам

*Вялікая сіла наркозу:*
*усё без цябе разлічылі,*
*пачуцці твае і твой розум*
*імгненна, ураз адключылі...*

*Гаротніку мрояцца крыллі,*
*чароўнае музыкі гукі.*
*Ачнуўся — ты ўжо ў эйфарыі,*
*нібыта ні болю, ні мукі;*

*язык твой яшчэ непаслушны,*
*а ўжо й кампліменты гаворыць...*
*Наркоз прыгадаю — мне скрушна:*
*ах што з чалавекам ён творыць!*

*Пабудзеш раз іншы на сходзе —*
*адчуеш: нібы пад наркозам*
*прамоўцы пачуцці і розум, —*
*з усімі у поўнай ён згодзе.*

## ...Пятлю здымаючы з паўстання

АКРАВЕРШ

*Калі прыходзіць верны час змагання, —*
*А ён — у ходзе ўсіх-усіх эпох, —*
*Любоў вышэйшую дае герою Бог*
*І з ёй — гатоўнасць да выпрабаванняў....*
*Няхай бы ворагаў Ты перамог —*
*О, як наш край расцвіў бы! Неўміручы*
*Ўладар, прарок свабоды немінучай,*
*Свой дух магутны ў праўдзе ты збярог.*
*Каб волі час наблізіць, без ваганняў*
*Ідзеш, пятлю здымаючы з паўстання.*

•

*На тым стаяў і стаю,*
*бо цемра душу не скасіла:*
*на сілу знойдзецца сіла,*
*мацнейшая за тваю.*

*Стаяў і стаю на тым:*
*на хітрасць знойдзецца розум,*
*разважлівы і цвярозы. —*
*і, хітры, праваліцца ты!..*

*Вось толькі б на дабрыню*
*даверлівых*
*зло не знайшлося!*
*Каб толькі дабро не звялося —*
*я думаю, мару і сню.*

## Згадка

*Бачыў: у зале ўсыпляе*
*дый многіх даволі,*
*сонных на сцэну выводзіць,*
*дыктуе ім волю*
*гіпнатызёр.*
*Сцэнка прыходзіць у памяць такая.*
*Асацыяцый зашмат узнікае.*
*Думкам — прастор.*

## Заход сонца і адзінокая краска

*Краска,*
*што вырасла на беразе мора,*
*развітвалася*
*на цэлую ноч*
*з яго вялікасцю СОНЦАМ,*
*якое на заход ішло.*

*Яна ледзь прыкметна*
*ківала яму, вялікаму,*
*маленькай сваёй галоўкай,*
*ледзь-ледзь варушыла далонькамі*
*сваіх нешматлікіх лісткоў.*

*Яна доўга бачыла*
*развітальныя промні СОНЦА,*
*бо мора было спакойнае,*
*роўнае, як палатно мастака.*

*Краска была верная СОНЦУ*
*настолькі,*
*што з яго заходам*
*згарнула-схавала*
*ўсё сваё хараство.*

## Трыялет

*Я сам залежны ад красы*
*і вернасці тваёй жаночай,*
*тваё са мной усюды вочы,*
*я сам залежны ад красы...*

*Маёй свабоды ты аднойчы*
*не руш, на рану соль не сып...*
*Я сам залежны ад красы*
*і вернасці тваёй жаночай.*

•

*Мне страшна ўявіць,*
*што некалі зойдуць*
*за чорны лес пацяжэлых веек*
*твае гаваркія вочы*
*і больш не ўзыдзе іх позірк;*

*і што твае вусны,*
*якія мяне наталяюць*
*адданасцю пацалункаў,*
*некалі знерухомеюць,*
*пахаладзеюць, замоўкнуць;*
*і што твае рукі,*
*чыстыя белыя рукі,*
*якія з чорнай работы*
*крыламі вылятаюць*
*і абнімаюць мяне,*
*некалі нема складуцца.*

*Як я падумаў пра гэта?!*
*Страціць шчасце баюся?*
*Адчуваць сябе вінаватым?*
*Я не ведаю. Ведаю толькі:*
*без цябе жыццё не ўяўляю.*

*Ты заснула з усмешкай на вуснах.*
*Сну анёл даў табе адпачынак*
*ад маіх пацалункаў, абдымкаў*
*сярод белага дня.*

## Шахматы

Андрэю ФЕДАРЭНКУ

*Далёка ад забавы лёгкай*
*існуе шахмат хараство;*
*не зведаў цар, ні раб, ні лёкай*
*ягонай існасці жывой.*

*Такой высокаю раскошай*
*сутворцаў адарыў Гасподзь;*
*не разумееш ласкі божай —*
*да шахмат лепш не падыходзь.*

*Іх цуд — у тым тварэнні духу,*
*што згаснуць не дае сабе,*
*у філіграння-трапным руху,*
*у захапляльнай барацьбе.*

*Як фея — ферзь (чароўны самы!),*
*а конь — крылаты, як Пегас...*
*Паэма, а камусьці драма*
*памылак горкіх і параз.*

*Камусьці — радасць перамогі:*
*тупік фінальны — каралю!..*
*Як мора, як прастор дарогі,*
*як волю, шахматы люблю.*

*Надоўга не магу расстацца*
*(прыходзяць да мяне і ў сны),*
*бо, як сапраўднае мастацтва,*
*невычарпальныя яны.*

## Спроба партрэта

АКРАВЕРШ

Спачатку было слова...
**З Бібліі**

1

*Голас*
*Адважны, праніклiва-шчыры*
*Ліецца ў эфіры*
*І ў Слове прыўкрасным, што*
*родным завецца,*
*Наскае сэрца натхнёнае б'ецца, —*
*Ах, неспакойна*
*Галіне Шаблінскай жывецца!*

2

*Шаблю напэўна ўзнімаў хтосьці*
*з продкаў яе,*
*Армію, можа, натхняў у гады*
*маладыя свае.*
*Божа, а ёй талент даў Ты такі*
*адмысловы —*
*Лучыць людзей, — надзяліўшы*
*любоўю да Слова;*
*І праз далёкія вёрсты і сцены*
*глухія дамоў*
*Несці не стоміцца, мусіць, ніколі яна*
*Слова красу і сваю трапяткую любоў,*
*Крылы якая дае, як каханне,*
*як мара й вясна...*
*Ах, каб пачуў яе продак,*
*што шаблю ўзнімаў,*
*Як быў бы рады, што крэўнае*
*Слова пазнаў!*



Фота Васіля МАЙСЮКА



**ЧАСАПІС**

## “Гнёздаў родных цяпло”

Яшчэ адна цудоўная кніга пабачыла свет у выдавецтве “Юнацтва”, а тое, што выйшла яна ў серыі “Школьная бібліятэка”, асабліва радасна, бо зборнік “Гнёздаў родных цяпло” складаецца з твораў, якія арганізатары ўрокаў пазакласнага чытання ў пачатковай школе з поспехам выкарыстаюць у сваёй рабоце, а гэта значыць, што хлопчыкі і дзяўчынкі далучацца да чароўнага роднага слова, а праз яго — у кнігу ўвайшлі як вершы, так і апавяданні — лепш спасцігнуць навакольны свет, адчуюць хараство прыроды, палюбяць Радзіму. Кожны з аўтараў, а гэта Віктар Гардзей, Казімір Камейша, Рыгор Ігнаценка, прапануе творы, што лёгка запамінаюцца, нясуць у сабе важкі выхаваўчы сэнс. І кожны вядзе з дзятвой даверлівую, зацікаўленую гаворку. А першым бярэ слова В. Гардзей — прызнаны майстра як у галіне дарослай, так і дзіцячай літаратуры.

Слова слухаецца В. Гардзея, а сітуацыі,



у якія трапляюць яго героі, часам выклікаюць добрую ўсмешку, а гэта прыцягвае яшчэ большую ўвагу да твораў. Асабліва калі нешта незвычайнае адбываецца з добравядомым героем, а ў В. Гардзея гэта найперш Заяц. З ім можна сустрэцца шмат у якіх вершах. Для прыкладу, у “Зайчыкавых нотах”:

*У музычнай школе*
*Зайчык дзень прабыў.*
*– До-рэ-мі — фасоля! —*
*Ноты ён вучыў.*

*Потым ля загона*
*Рваў струкі за трох*
*І спяваў натхнёна:*
*До-рэ-мі — гарох!*

Асобны раздзел называецца “Хітры Вася”. У яго ўвайшлі жарты пра дзяцей. Таксама творы надзіва дасціпныя:

*На сцежку верабей прысеў,*
*А тут і голуб падляцеў.*
*Смяецца радасна Андрэй:*
*– Вось верабей! Вунь галубей!*

У творах К. Камейшы асабліва адчувальна любоў да роднай прыроды. Шмат якія вершы нагадваюць сабой як бы выразна пададзеныя малюнкі, народжаныя шчодрым пэндзлем мастака. Адкрываецца падборка вершам “Роднае”:

*Можа, ён з песні самой узнік,*
*Гэты край,*
*І мячом, і нарогам мечаны.*
*Тут яго халоднасць,*
*ляднік,*
*Гуляў калісьці ў каменьчыкі.*

Прырода для паэта — не проста кніга, якую можна чытаць бясконца, захапляючыся ёю, а свайго роду — Біблія. Адзін з вершаў так і называецца — “Зялёная біблія”:

*Кнігу пушчы сваёй*
*Перачытваў я неаднойчы.*
*І чытаў яе так,*
*Ажно слепнулі вочы.*

А яшчэ яе трэба перадаваць нашчадкам:

*О зялёная біблія*
*Долі маёй высакоснай!*
*Можа, я і зайздроснік таму,*
*Што мой лёс незайздросны.*

*Перад тым як цябе*
*Перадам я нашчадку,*
*Перачытаю старонкі ўсе*
*Ад пачатку.*
*І дажджамі вачэй сваіх*
*Словы я ўсе наноў перамыю.*
*Трэба кнігу яму перадаць мне,*
*А не стыхію.*

Рыгор Ігнаценка выступае з апавяданнямі. Ён адзін з нямногіх беларускіх пісьменнікаў, хто ў сваёй творчасці нязменна прытрымліваецца па сутнасці адной тэмы — тэмы прыроды. І творы, прадстаўленыя ў кнізе “Гнёздаў родных цяпло”, пацвярджаюць, наколькі аўтар умее быць арыгінальным, “спяваючы” сваю песню Бацькаўшчыне.

**Алег ГУЛІЦКІ**

ПАЭЗІЯ

Васіль
ЖУКОВІЧ



# “На тым стаяў і стаю...”

●

*Сэрца я сваё транжыру*
*з легкадумнасцю юначай,*
*хоць і радзілі мне шчыра*
*навучыцца жыць інача:*

*без эмоцый, асцярожна*
*жыць, каб лепей захавацца...*
*Навучыцца, мабыць, можна...*

*Не хачу жыцця баяцца!*

●

*Што са мной, не пытайце ў мяне, дарагія.*
*Сакрушае, мардуе мяне алергія.*

*Алергія на што? — б'юся месяц*
*другі я. —*
*На пустыя рублі ці на чэргі даўгія,*

*ці на тое, што ў розныя ўлажу даўгі я,*
*рэагую так востра? — ў мяне алергія.*

*Гэта ўсё — толькі повад,*
*прычыны — другія:*
*з'явы болей балючыя, з'явы ліхія —*

*прысак, попел Чарнобыля,*
*цень Курапатаў...*
*Беды у глупстве чыноў*
*і ў жывучасці катаў,*

*беды ў здрадзе, халуйстве,*
*учынках паскудных,*
*у хранічных грахах, беды*
*ў снах непрабудных.*

*Ажно пухне душа ад даўжэзнае ночы.*
*Не запухлі б ніколі відушчыя вочы!*

*Бачу ўсё: і журбу, і галечу, і гора.*
*Праўды бура, ляці да народнага мора...*

*Па радзіме свабоднай маёй настальгія...*
*А на ўсякі палон у мяне — алергія.*

## Пад наркозам

*Вялікая сіла наркозу:*
*усё без цябе разлічылі,*
*пачуцці твае і твой розум*
*імгненна, ураз адключылі...*

*Гаротніку мрояцца крыллі,*
*чароўнае музыкі гукі.*
*Ачнуўся — ты ўжо ў эйфарыі,*
*нібыта ні болю, ні мукі;*

*язык твой яшчэ непаслушны,*
*а ўжо й кампліменты гаворыць...*
*Наркоз прыгадаю — мне скрушна:*
*ах што з чалавекам ён творыць!*

*Пабудзеш раз іншы на сходзе —*
*адчуеш: нібы пад наркозам*
*прамоўцы пачуцці і розум, —*
*з усімі у поўнай ён згодзе.*

## ...Пятлю здымаючы з паўстання

АКРАВЕРШ

*Калі прыходзіць верны час змагання, —*
*А ён — у ходзе ўсіх-усіх эпох, —*
*Любоў вышэйшую дае герою Бог*
*І з ёй — гатоўнасць да выпрабаванняў....*
*Няхай бы ворагаў Ты перамог —*
*О, як наш край расцвіў бы! Неўміручы*
*Ўладар, прарок свабоды немінучай,*
*Свой дух магутны ў праўдзе ты збярог.*
*Каб волі час наблізіць, без ваганняў*
*Ідзеш, пятлю здымаючы з паўстання.*

●

*На тым стаяў і стаю,*
*бо цемра душу не скасіла:*
*на сілу знойдзецца сіла,*
*мацнейшая за тваю.*

*Стаяў і стаю на тым:*
*на хітрасць знойдзецца розум,*
*разважлівы і цвярозы. —*
*і, хітры, праваліцца ты!..*

*Вось толькі б на дабрыню*
*даверлівых*
*зло не знайшлося!*
*Каб толькі дабро не звялося —*
*я думаю, мару і сню.*

## Загадка

*Бачыў: у зале ўсыпляе*
*дый многіх даволі,*
*сонных на сцэну выводзіць,*
*дыктуе ім волю*
*гіпнатызёр.*
*Сцэнка прыходзіць у памяць такая.*
*Асацыяцый зашмат узнікае.*
*Думкам — прастор.*

## Заход сонца і адзінокая краска

*Краска,*
*што вырасла на беразе мора,*
*развіталася*
*на цэлую ноч*
*з яго вялікасцю СОНЦАМ,*
*якое на захад ішло.*

*Яна ледзь прыкметна*
*ківала яму, вялікаму,*
*маленькай сваёй галоўкай,*
*ледзь-ледзь варушыла далонькамі*
*сваіх нешматлікіх лісткоў.*

*Яна доўга бачыла*
*развітальныя промні СОНЦА,*
*бо мора было спакойнае,*
*роўнае, як палатно мастака.*

*Краска была верная СОНЦУ*
*настолькі,*
*што з яго заходам*
*згарнула-схавала*
*ўсё сваё хараство.*

## Трыялет

*Я сам залежны ад красы*
*і вернасці тваёй жаночай,*
*твае са мной усюды вочы,*
*я сам залежны ад красы...*

*Маёй свабоды ты аднойчы*
*не руш, на рану соль не сып...*
*Я сам залежны ад красы*
*і вернасці тваёй жаночай.*

●

*Мне страшна ўявіць,*
*што некалі зойдуць*
*за чорны лес пацяжэлых веек*
*твае гаваркія вочы*
*і больш не ўзыдзе іх позірк;*

*і што твае вусны,*
*якія мяне наталяюць*
*адданасцю пацалункаў,*
*некалі знерухомеюць,*
*пахаладзеюць, замоўкнуць;*
*і што твае рукі,*
*чыстыя белыя рукі,*
*якія з чорнай работы*
*крыламі вылятаюць*
*і абнімаюць мяне,*
*некалі нема складуцца.*

*Як я падумаў пра гэта?!*
*Страціць шчасце баюся?*
*Адчуваць сябе вінаватым?*
*Я не ведаю. Ведаю толькі:*
*без цябе жыццё не ўяўляю.*

*Ты заснула з усмешкай на вуснах.*
*Сну анёл даў табе адпачынак*
*ад маіх пацалункаў, абдымкаў*
*сярод белага дня.*

## Шахматы

Андрэю ФЕДАРЭНКУ

*Далёка ад забавы лёгкай*
*існуе шахмат хараство;*
*не зведаў цар, ні раб, ні лёкай*
*ягонай існасці жывой.*

*Такой высокаю раскошай*
*сутворцаў адарыў Гасподзь;*
*не разумееш ласкі божай —*
*да шахмат лепш не падыходзь.*

*Іх цуд — у тым тварэнні духу,*
*што згаснуць не дае сабе,*
*у філіграння-трапным руху,*
*у захаплялынай барацьбе.*

*Як фея — ферзь (чароўны самы!),*
*а конь — крылаты, як Пегас...*
*Паэма, а камусьці драма*
*памылак горкіх і параз.*

*Камусьці — радасць перамогі:*
*тупік фінальны — каралю!..*
*Як мора, як прастор дарогі,*
*як волю, шахматы люблю.*

*Надоўга не магу расстацца*
*(прыходзяць да мяне і ў сны),*
*бо, як сапраўднае мастацтва,*
*невычарпальныя яны.*

## Спроба партрэта

АКРАВЕРШ

Спачатку было слова...
**З Біблії**

1

*Голас*
*Адважны, пранікліва-шчыры*
*Ліецца ў эфіры*
*І ў Слове прыўкрасным, што*
*родным завецца,*
*Наскае сэрца натхнёнае б'ецца, —*
*Ах, неспакойна*
*Галіне Шаблінскай жывецца!*

2

*Шаблю напэўна ўзнімаў хтосьці*
*з продкаў яе,*
*Армію, можа, натхняў у гады*
*маладыя свае.*
*Божа, а ёй талент даў Ты такі*
*адмысловы —*
*Лучыць людзей, — надзяліўшы*
*любоўю да Слова;*
*І праз далёкія вёрсты і сцены*
*глухія дамоў*
*Несці не стоміцца, мусіць, ніколі яна*
*Слова красу і сваю трапяткую любоў,*
*Крылы якая дае, як каханне,*
*як мара й вясна...*
*Ах, каб пачуў яе продак,*
*што шаблю ўзнімаў,*
*Як быў бы рады, што крэўнае*
*Слова пазнаў!*



Фота Васіля МАЙСЮКА

у свеце Надзея фон Мек змагла зберагчы для расійскай і сусветнай культуры П. Чайкоўскага (і ён гэта разумеў), выдаткоўваючы яму на працягу 13 гадоў 6 тыс. срэбрам, раз ад разу дабаўляючы да гэтых грошай.

Цікава, што да таго, як фон Мек зрабілася багатай і змагла дапамагаць П. Чайкоўскаму, яе муж атрымліваў столькі ж, колькі і вялікі кампазітар на службе, — 1 тыс. 500 руб. Сям'я фон Мек жыла тады на 20 капеек у дзень, а П. Чайкоўскаму такіх грошай не хапала аднаму. У тагачаснай Расіі двухпакаёвая кватэра каштавала 12 руб., а "сносный обед" — 25 капеек.

І вось — "рынкавы сацыялізм". Сімфонія (гадавая праца) у нас каштуе 100 долараў. Дайце мне падручнік па эканоміцы "рынкавага сацыялізму", калі ён дзе ёсць! Я дакладна ведаю, што там — памылка! Наш кампазітар нават не можа заплаціць са свайго "наробку" выканаўцу твора, як гэта рабіў Рымскі-Корсакаў, — "отстегнуть" 100 рублёў (400 "сносных обедов")...

●

Цытую: "...вялікі каштоўны песенны матэрыял ёсць, але ляжыць ён ужо апрацаваны недзе ў партфелі і чакае, пакуль мы набудзем уласную нотадрукарню, мець якую нам ужо даўно пара". ("Савецкая Беларусь", 13.01.29. № 10). Цытаце — 73 гады! Ужо "сканала" Савецкая Беларусь, а цытата захавала дзівосную свежасць! Маю на ўвазе актуальнасць стварэння музычнага выдавецтва.

Кожная краіна мае дзяржаўныя сцяг, герб і гімн — неабходныя атрыбуты, якія гавораць пра адметнасць і адрозненні народа ад іншых. (Нават не маючы свайго гімна, беларусы ўсё роўна адрозніваліся б тым, што адзіныя ў цывілізаваным свеце не маюць музычнага выдавецтва).

Я ў якасці гімна ўзяў бы народную песню: яна якраз і адлюстроўвае душу народа, яго ментальнасць, яго энергетыку. Яна — вынік калектыўнага розуму народа на працягу стагоддзяў. Але гімны ствараюцца кампазітарамі. І перш чым пачуць, гімн трэба выканаць, а перш чым выканаць, трэба распісаць ноты кожнаму ўдзельніку хору (50 чалавек), кожнаму артысту аркестра (100 чалавек). А перш чым распісаць галасы, асобныя партыі, партытуру гімна трэба цалкам надрукаваць.

Беларусь мае тысячагадовую дзяржаўнасць (Полацкае княства), паўтысячагадовае кнігадрукаванне (Скарына), якое апярэдзіла расійскі першадрук, мае старажытную гісторыю друкавання нот — і на пачатку 21 ст. не мае свайго музычнага выдавецтва! А гэта такі ж атрыбут дзяржавы, як і друкаванне кніг.

У Польшчы дзяржаўнае музычнае выдавецтва было створана ў 1945 г. На Украіне — у 1966 г.

У Расіі ў 19 ст. існавалі прыватныя музычныя выдавецтвы. Адзін толькі П. Юргенсон за 1870—1903 гг. набыў 17 музычных фірм (дробныя не вытрымалі канкурэнцыі) Масквы, Пецярбурга, Рыгі, Адэсы. Выпусціў поўныя зборы твораў Мендэльсона, Шумана, Шапэна, усе санаты Бетховена, творы ўсіх рускіх кампазітараў, кнігі па музыцы, падручнікі. Адкрыў аддзяленне фірмы ў Лейпцыгу, меў сувязі з Лонданам. Да 1904 г. ажыццявіў 29 тыс. выданняў. Выпускаў танныя ноты масавым тыражом, гандляваў піяніна і раялямі. У 1903 г. пры нотным магазіне стварыў у Маскве бясплатную музычную чытальню (!).

Мяркуйце самі, выгодная гэта была справа ці не? Заўважце, выдавецтвы былі прыватныя. Цару гэта было не патрэбна. Ён клапаціўся пра ўмацаванне сваёй улады, якую ўсё ж не ўтрымаў. Але навошта трэба было рабіць рэвалюцыю, калі з такой безлічы музычных выдавецтваў засталіся на 100 нацый і народнасцей толькі два: "Музыка" і "Советский композитор" (цяпер — "Композитор" )?) А якая была альтэрнатыва! Рымскі-Корсакаў, яшчэ не напісаўшы "Казку пра цара Салтана", дамаўляўся з Бяляевым надрукаваць гэтую оперу. Той звычайна плаціў 3 тысячы (успомніце, абед каштаваў 25 кап.). І калі выдавец адмовіўся друкаваць, аўтар прадаў сваю оперу (праўда, за 2 тыс.) выдавецтву Бесэля. А да якога ж выдаўца ісці сёння беларускаму кампазітару?

Ці ведаеце, якая сувязь паміж тым, што беларусы "не маюць свайго Шаляпіна", і тым, што не маюць музычнага выдавецтва?

Тэзіс пра тое, што ў нас "няма Шаляпіных", — не толькі звычайны правінцыйны рэцыдыў посткаланіяльнага сіндрому, калі чужое ідэалізуецца, а сваё напамінае пра горкія савецкія часы здзеку (у горадзе і ў арміі) з твайго вясковага паходжання, з твайго беларускага вымаўлення. Гэта — і канстатацыя аб'ектыўнага закона імперыі, калі метраполія забірае ўсё таленавітае з перыферыі (калоніі), а тая "добраахвотна" аддае. Такі закон дзейнічаў і ў савецкія часы.

Вядома, бяда беларусаў у тым, што ў 19 ст. яны не мелі сваёй кансерваторыі. Але ж тады б нашчадак беларускай шляхты Фёдар Стравінскі, бацька геніяльнага кампазітара Ігара Стравінскага, не паехаў бы вучыцца ў С.-Пецярбургскую кансерваторыю. І каб у Пецярбургу не стварылі на аснове трупы Шклоўскага тэатра (Магілёўшчына) Марыінскі тэатр, Ф. Стравінскі не "проложил бы путь" рускаму цёзку Шаляпіну, спяваючы на імператарскай опернай сцэне.

Наш М. Кл. Агінскі стаўся папярэднікам Ф. Шапэна ў жанры паланеза, С. Манюшка — пачынальнікам польскай нацыянальнай оперы, М. Глінка — "бацькам" рускай класічнай музыкі, а праўнук Пятра Міхайлавіча Шастаковіча з вёскі Калодна Мядзельскага раёна — вялікім рускім кампазітарам 20 стагоддзя.

Глядзіце, колькі геніяў дала свету беларуская зямля! Таму тэзіс пра "адсутнасць сваіх Шаляпіных" (чытай: Стравінскіх, Агінскіх, Манюшкаў, Глінкаў, Шастаковічаў) — гэта не столькі канстатацыя праблемы "собственных Платонов" і "Кулибиных" (яны ў нас ёсць), колькі заклік да бяздзеяння. Няма Шаляпіных? Дык навошта плаціць іншым, дармаедам гэтым, навошта выконваць, навошта друкаваць? Навошта тады музычнае выдавецтва? Каго друкаваць? Няма Шаляпіных — няма праблем!

А друкаваць ёсць што. Без друкавання навуковых, асветніцкіх, публіцыстычных, белетрыстычных прац па музыцы стрымліваецца працэс духоўнага жыцця. А калі мы не пачнём друкаваць ноты, музычная культура выпадзе з агульнага культурнага працэсу краіны. Хто адкажа?

Некалькі пакаленняў беларусаў не маюць уяўлення пра айчынную музычную класіку. Няма належных нотадрукаў для аркестраў, хораў, асобных інструментаў, вакалістаў. Беларусы не надрукавалі яшчэ сваёй і сусветнай музычнай класікі, падручнікаў па тэорыі і гісторыі музыкі, і проста — папулярнай літаратуры пра музыку і яе творцаў, разлічанай на розныя ўзросты. (Намаганні неспецыялізаваных выдавецтваў, Беларускага інстытута праблем культуры, Акадэміі музыкі, асобных фірмаў — усцешнае выключэнне, якое ніколі не кампенсуе прагал на гэтай ніве ў маштабах дзяржавы).

Да таго ж, псуюцца стужкі з фанаграмамі на радыё, чакаюць пераводу на лічбавы запіс творы беларускіх класікаў, сучасных кампазітараў, збор аўтэнтычнага фальклору.

●

70 гадоў існуе Беларускі саюз кампазітараў (спачатку — у складзе СК СССР). І за гэтыя гады ні ён, ні яго кіраўнікі не змаглі зрабіць справу № 1: растлумачыць ураду, што без музычнага выдавецтва няма паўнавартаснай культуры. Што ж гэта за творчая арганізацыя такая?

"Беларускі саюз кампазітараў" лічыцца грамадскім аб'яднаннем, але за апошнія паўтара дзесяцігоддзі не правёў ніводнай акцыі агульнанацыянальнага гучання. Не сказаў свайго слова ў абарону роднай мовы, не выказаў сваіх адносінаў да стварэння саюза Беларусі і Расіі. Таму ў грамадстве такая арганізацыя не мае аўтарытэту, які, вядома, заслугоўваецца справай.

Можа, калегі спадзяюцца, што, дзякуючы саюзу з Расіяй, апошняя пачне друкаваць іх партытуры? Але ж ужо з дзесятак гадоў некаторыя партытуры беларускіх кампазітараў ляжаць у выдавецтве С.-Пецярбурга. Можа, яны спадзяюцца, што Вялікі тэатр у Маскве замовіць каму-небудзь з іх заказ на стварэнне гістарычнай оперы, а расійскія музыкі будуць выконваць нашы сімфоніі, кантаты, спяваць рамансы на беларускай мове па радыё і тэлебачанні, у канцэртных залах — з пераводам ганарараў за іх гучанне? Годзе, Расія занятая сваімі справамі, а нашы праблемы — гэта нашы праблемы.

Кожны народ стварыў і стварае адметныя матэрыяльныя і непаўторныя духоўныя каштоўнасці. Матэрыяльныя можна "памацаць", "вымераць", "узважыць". Духоўныя — мову, фальклор, прафесійнае мастацтва, творчасць — нічым не вымераеш.

Краіны, якія зберагаюць сваю духоўную спадчыну, ахоўваюць, падтрымліваюць, ствараюць умовы для развіцця культуры, — эканамічна багатыя. Ужо вядома, што мікраарганізмы ў прыродзе фарміруюць сусветнае надвор'е. Дык вось, духоўная культура (не з нашым мікрабюджэтам) фарміруе эканамічнае надвор'е той ці іншай краіны. Эканоміка без культуры — гэта як неандэрталец з камянём за камп'ютэрам, а можа, і — па камп'ютэры!

Ніхто не ведае сапраўднай цаны таму ці іншаму твору мастацтва, яго ўплыву на чалавека. Але тое, што грамадства без культуры і мастацтва — гэта ўжо не грамадства, а нешта іншае, — няма сумневу. Мы, беларусы, толькі пачалі пазнаваць сябе, лепшыя і горшыя рысы свайго нацыянальнага характару. Пачалі ўсведамляць, што без спадчыны (мовы, народнай песні і класікі) мы нічога не пабудуем. Што народ скансалідаваць магчыма толькі на аснове беларускіх духоўных каштоўнасцей. Што трэба перарэзваць тую пупавіну несамастойнага, залежнага жыцця, якім мы жылі некалькі стагоддзяў.

Толькі нацыянальная культура: мова, фальклор, прафесійнае мастацтва — не дазволіць перакрэсліць нас як народ. Прапаганда нацыянальнай культуры будзе ўздымаць самасвядомасць народа, які дасць свету новых беларускіх геніяў. Беларусь стане духоўна і матэрыяльна багатай краінай не "паміж Польшчай і Расіяй", як нейкая прамежкавасць, а Дзяржавай у цэнтры Еўропы.

...А музычнае мастацтва наша можа паспяхова канкурыраваць і ўжо канкурыруе ў свеце.

**Алесь РАШЧЫНСКІ,**
**кампазітар**

# "Жывая" паштоўка, або Туга па XX стагоддзі

***Гэта ці не самая маладая музычная імпрэза. Летась яна праходзіла ўпершыню, стаўшыся і першым, і новым фестывалем новага тысячагоддзя. Сёлета Заслаўскі гарвыканкам, упраўленне культуры Мінскага аблвыканкама, Міністэрства культуры і Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі зноў наладзілі зімовае свята камернай музыкі. Яго канцэпцыя фарміравалася пад мастацкім кіраўніцтвам маэстра Міхала Фінберга пры ўдзеле даследчыцы старадаўняй беларускай музыкі Вольгі Дадзіёмавай. Яна ж і суправаджала канцэртныя праграмы фестывалю "Заслаўе-2002" асветніцкім каментарыем. З Вольгай Дадзіёмавай гутарыць карэспандэнт "ЛіМа".***

**— Першаму фестывалю камернай музыкі ў Заслаўі, як з'яве новай і для нашых невялікіх гарадоў перспектыўнай, "ЛіМ" надаў значную ўвагу (гл. публікацыю за 23 сакавіка 2001 года). "Заслаўе-2002" дае спажыву ўжо для гаворкі пра пэўныя тэндэнцыі ў правядзенні гэтай імпрэзы. Якім чынам развіваецца яе канцэпцыя?**

— Лічба "2002", яе крыжападобная сіметрыя, прымусіла задумацца вось пра што. Пасля эйфарыі, якую чалавецтва перажывала на парозе мiленіума, людзі адчулі, што і стагоддзе 20-е сталася ўжо мінулым і такім жа далёкім ад нас ментальна, як і 16-е, бо адышло ў гісторыю. З гэтага хранатопа і вынікала канцэпцыя сёлетняга фестывалю, якая афарміласяу адмысловы крышталь, грані якога адлюстроўваюць пэўны зрэз айчыннай музычнай культуры. З пераходам у трэцяе тысячагоддзе, можна сказаць, выявілася патрэба ва ўласнай культуры 20-га стагоддзя, мы ўпершыню адчулі настальгію па стагоддзі нядаўна мінулым, што паўплывала і на рэпертуар фестывальных канцэртаў.

**— Як і "Музы Нясвіжа", фестываль у Заслаўі рыхтуецца выканаўцамі, што працуюць у структуры Дзяржаўнага канцэртнага: камерным аркестрам пад кіраўніцтвам Валерыя Сарокі, Актэтам драўляных духавых інструментаў, якім кіруюць Барыс Нічкоў ды Генадзь Гедыльтар, флейтыстамі ансамбля "Сірынкс" (мастацкі кіраўнік Ніна Аўраменка) ды трубачамі "Інтрады" (мастацкі кіраўнік Мікалай Волкаў). Удзельнічаюць і "госці" — сёлета, як і летась, прыязджала Акадэмічная харавая капэла імя Шырмы на чале з Людмілай Яфімавай.**

**Усе гэтыя калектывы дзеляць паміж сабой два фестывальныя вечары, так што канцэртныя праграмы не паўтараюцца. Летась, аднак, яны складаліся з твораў, прэзентаваных на фестывалі "Музы Нясвіжа". Для заслаўскай публікі гэта было адкрыццё, для мінчукоў, заўсёднікаў нясвіжскай імпрэзы, — чарговая прыемная сустрэча з ужо знаёмым. "Заслаўе-2002" сабрала тых самых выканаўцаў, але з істотна абноўленым рэпертуарам...**

— І акцэнт, як я ўжо казала, быў зроблены на творах XX стагоддзя. Хаця выступленне кожнага калектыву адлюстроўвала розныя эпохі, стылі з гісторыі беларускай музыкі, у гэтым ужо не было знарочыстага імкнення даказаць нашу спаконвечную еднасць з Еўропай. Еднасць Беларусі з еўрапейскай культурай даўно даказаная, гэта — аксіёма. Цяпер неабходна засяродзіцца на музыцы вядомых эпох і стыляў, створанай кампазітарамі, якія жылі на Беларусі ў розныя часы. Тон фестывалю задаў Камерны аркестр пад кіраўніцтвам Валерыя Сарокі, адкрыўшы праграму творамі нашых кампазітараў XX стагоддзя: Мікалая Чуркіна, Яўгена Глебава, Льва Абеліёвіча.

Аднак які парадокс адкрыўся ў сувязі з Чуркіным! Вядома, што гэта — класік, з імені якога пачынаецца вывучэнне гісторыі беларускай музыкі XX стагоддзя. А веданне яго творчасці звялося чамусьці да аднаго хрэстаматыйнага твора — сімфаньеты "Беларускія карцінкі". Прытым захавалася вельмі багатая спадчына, я сказала б, акварэльна цудоўныя п'есы ў розных жанрах. Самому маэстра Фінбергу давялося ісці ў Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва Беларусі, шукаць там і капіраваць не вядомыя сёння нават музыкантам ноты Мікалая Чуркіна! Потым Андрэй Шпянёў зрабіў, як заўсёды, выдатныя, таленавітыя аранжыроўкі для аркестра. Новае жыццё набылі "Песня без слоў", "Мазурка", "Ронда"...

Свежа прагучалі таксама "Фантастычныя танцы" Глебава, "Арыя" Абеліёвіча для скрыпкі з аркестрам.

Ансамбль драўляных духавых, а следам і "Сірынкс" разгарнулі адмысловую музычную панараму: ад рэнесансу да XXI стагоддзя. Апроч беларускай даўніны (ужо знаёмыя Мацей Радзівіл, Восіп Казлоўскі, напрыклад, і ўпершыню прадстаўлены кампазітар XVI стагоддзя Ян Брант), выконваліся творы Уладзіміра Солтана, Валерыя Іванова, Мікалая Літвіна, Генадзя Ермачэнкава.

Гэткай жа разнастайнасцю вызначалася праграма другога фестывальнага вечара. Ансамбль "Інтрада" граў музыку Міхала Клеафаса Агінскага ды Напалеона Орды, Галіны Гарэлавай ды Уладзіміра Каральчука.



Літургічную музыку беларускіх кампазітараў — нашых сучаснікаў Андрэя Бандарэнкі, Людмілы Шлег, Яўгена Паплаўскага, Алега Хадоскі выконвала Акадэмічная харавая капэла, прысвяціўшы, дарэчы, гэтае выступленне 110-годдзю з дня нараджэння свайго заснавальніка — Рыгора Шырмы.

**— Можна казаць, што ў Заслаўі закладваецца свая традыцыя музычнага жыцця?**

— У мяне нават уражанне, што яна спрадвек тут існавала! Задоўга да пачатку канцэрта ў фае граюць заслаўскія самадзейныя калектывы. Зала — перапоўненая, прымае музыкантаў гэтак жа далікатна і горача, як і нясвіжская публіка. Я зноў пераканалася, што ў плане мастацкім няма малых гарадоў: яны прымаюць музыку так арганічна, нібы яна тут — спрадвек і заўсёды побач. У зале былі людзі розных узростаў: дзеці, моладзь, пажылыя. Мне нават не хацелася ісці за сцэну, падчас канцэрта я заставалася сярод іх, у атмасферы шчырай цікавасці, радасці.

Чым болей гарадоў будзе ахоплена гэтым фестывальным рухам, тым больш запатрабаванымі, заахвочанымі адчуюць сябе нашы музыканты. Яны ўбачаць сэнс у сваёй працы, у жывым кантакце з публікай. Дарэчы, на фестывалі адчуваліся і моцны душэўны, людскі кантакт, і повязь пакаленняў, і повязь часоў. У складзе выканаўцаў побач з вядучымі майстрамі — нямала студэнтаў і аспірантаў Беларускай акадэміі музыкі. У рэпертуары — музыка даўняя і найноўшая, праз якую ідзе засваенне багацця выяўленчых сродкаў, стыляў, жанраў. Такая непарыўнасць мастацкага жыцця, творчага працэсу радуе!

**— І стымулююць гэты працэс жывыя кантакты з публікай...**

— Так-так, вернемся да ўжо выказанай думкі наконт працы музыкантаў непасрэдна для публікі ў зале. Вось такая ў мяне ўзнікае паралель. Сёння на Захадзе распаўсюджана рафінаваная форма кантактаў паміж людзьмі: усе перапісваюцца "імэйлам". Але ж калі дасылаецца паштоўка, напісаная ад рукі, — гэта лічыцца найвышэйшым сімвалам пашаны! І фестывалі ў нашых т. зв. малых гарадах каштоўныя менавіта ўзаемнымі жывымі кантактамі артыстаў і публікі.

Нібы паштоўка, напісаная ад шчырага сэрца, ідзе гучанне музыкі — **жывое**, не з CD і не з тэлеэкрана, а са сцэны, і ў адказ — гэткія ж непасрэдныя, жывыя эмоцыі з залы, не спешчанай візітамі гастралёраў.

**— На фестывальнай карце Беларусі пазначыўся новы пункт: Мсціслаў.**

— Сёлета свята камернай музыкі, па ініцыятыве Дзяржаўнага канцэртнага аркестра, прыйдзе і сюды. "Музычнае мастацтва Беларусі ад старажытнасці да сучаснасці" — агульная фестывальная канцэпцыя, але ў розных гарадах яна будзе адметная зместам праграм. У траўні — "Музы Нясвіжа". Затым — першы фестываль у Мсціславе, старажытным горадзе, з якім звязаны плённы перыяд у творчасці Мікалая Чуркіна, — адпаведнай будзе і праграма. Прычакаем наступную зіму — і фестываль зноў завітае на зямлю Рагнеды й Ізяслава, што сімвалізуе высокі гонар і высокую духоўнасць, якія пранёс беларускі народ праз сваю гісторыю.

**— А пакуль — чакаем традыцыйную "паштоўку" ад нясвіжскіх музаў.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: за дырыжорскім пультам Камернага аркестра — заслужаны артыст Беларусі В. САРОКА.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

***У гісторыі беларускай літаратуры даваеннага часу прыкметны след пакінуў Рыгор Мурашка, пісьменнік пакутлівага і складанага лёсу. І хоць яго асабістае жыццё не закрануў бесчалавечы і ненажэрны бальшавіцкі тэрор, ён знявечыў яго як мастака, творцу, што мог здзейсніцца больш поўна і таленавіта. Менавітага ў яго творчасці 30-х гадоў выявілася тая трагічная супярэчнасць паміж самой сутнасцю пісьменніка, як чалавека бескампраміснага, сумленнага, духоўна шчодрага, справядлівага і накіраванасцю яго твораў, якія пісаліся ў рэчышчы жорсткіх ідэалагічных канонаў эпохі таталітарызму. Увагай чытачоў у свой час карысталіся зборнікі апавяданняў Рыгора Мурашкі "Стрэл начны ў лесе", "Прыгранічны манастыр", "Званкі", "Рузікі", "Мюдаўская ноч", аповесць "У іхнім доме", раманы "Сын" і "Салаўі святога Палікара".***

***Але найбольш значным дасягненнем пісьменніка ў жанры мастацкай прозы сталі раманы "Таварышы" і "Насуперак лёсу", напісаныя ў час Вялікай Айчыннай вайны. У гэтых раманах пісьменнік знайшоў духоўныя сілы, каб асэнсаваць антыгуманную і супрацьчалавечую палітыку савецкай улады.***

***Рыгор Мурашка ў беларускай літаратуры працаваў няпоўныя 20 гадоў. Яго літаратурным дэбютам стала публікацыя абразка "Папоўскі шлюб" у газеце "Савецкая Беларусь" у 1924 годзе. Займаўся пісьменнік не толькі літаратурнай, але і грамадска-культурнай дзейнасцю, быў актыўным сябрам літаб'яднання "Маладняк", прыкладаў шмат намаганняў для пашырэння маладнякоўскага руху, удзельнічаў у яго ўстаноўчым сходзе (1925), І Усесаюзным з'ездзе пралетарскіх пісьменнікаў (1928) і пленуме Савета УАПП (Усесаюзнага аб'яднання асацыяцый пралетарскіх пісьменнікаў) у 1929 г. Як і іншыя літаратары, ён часта выступаў перад сялянамі, рабочымі, чырвонаармейцамі, пасля сустрэч з якімі змяшчаў допісы ў беларускія газеты і часопісы.***

***У 1930 – 1933 гадах Рыгор Мурашка быў прызначаны загадчыкам аддзела мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР. І як успамінаў яго сябра Мікола Хведаровіч: "Ім нямала было зроблена для росквіту беларускай літаратуры. Пры яго непасрэдным рэдактарскім удзеле выдадзены юбілейныя творы Янкі Купалы і Якуба Коласа, творы Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы, Змітрака Бядулі. Ён умеў быць непасрэдным і шчырым у сваёй гутарцы з аўтарамі, заўсёды дапамагаў ім добрай парадай, шчырым таварыскім словам. Я ўспамінаю, як у тыя часы заўсёды ў яго кабінеце было шмат людзей, як кожны выходзіў адтуль абнадзеены сяброўскай размовай". Цяжкая хвароба (туберкулёз лёгкіх і касцей) і бязмернае асабістае гора (смерць васьмігадовага сына) адлучылі пісьменніка ад актыўнай літаратурнай працы. Але калі яму крыху палепшала, Рыгор Данілавіч пачаў працаваць загадчыкам кабінета маладога аўтара пры Саюзе пісьменнікаў БССР. "Памятаюць яго ўважлівую і таварыскую дапамогу многія пісьменнікі, якія ў той час кансультаваліся ў кабінеце. Рыгор Данілавіч не шкадаваў ні сілы, ні часу, каб толькі творы таленавітых маладых пісьменнікаў былі надрукаваны. Ён радаваўся з'яўленню новага імя ў друку, стараўся абараніць ад несправядлівай крытыкі", — успамінае Мікола Хведаровіч.***

***Пра тое, як ставіўся вядомы пісьменнік да пачынаючых аўтараў, сведчаць яго лісты да Аркадзя Чарнышэвіча, якія захоўваюцца ў асабістым фондзе апошняга ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва).***

***Аркадзь Чарнышэвіч прысылаў свае творы з далёкай Комі-Пярмяцкай акругі, куды трапіў разам з сям'ёю пасля таго, як яго "раскулачанага" бацьку адправілі ў 1930 годзе на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. Ва ўмовах страшэнных нястач і голаду беларускія сем'і пачыналі новае жыццё. Давялося будучаму пісьменніку папрацаваць і на лесараспрацоўках, і на сплаве, і на будоўлі. У сярэдзіне 30-х гадоў ён пачаў настаўнічаць, а ў вольныя хвіліны браў у рукі пяро. Свае першыя творы дасылаў на радзіму, у Саюз пісьменнікаў. З вялікай увагай аднёсся да пачынаючага аўтара Рыгор Мурашка. А колькі душэўнай спагадлівасці, цярпення і далікатнасці выказаў ён у сваіх лістах, грунтоўна і дэталёва акрэсліўшы недахопы і памылкі ягоных апавяданняў.***

***Акрамя таленту мастака, ёсць талент чалавечай дабрыні, які непадуладны ніякім ідэалагічным рэпрэсіям, ды выпрабаванням часу. Такім талентам, па вялікім рахунку, валодаў пісьменнік Рыгор Мурашка.***

**Таццяна КЕКЕЛЕВА**

# Талент дабрыні

## ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Рыгора МУРАШКІ



Тав.Чарнышэвіч!

На маю думку, апавяданне "Алёша", пераапрацаваўшы, можна надрукаваць.

Што ж уласна ў ім трэба б пераапрацаваць? У мастацкім творы кожная дробязь павінна быць матываваная, абгрунтавана.

У Вас не абгрунтаваны "Мікола-цудатворца". Навошта ён спатрэбіўся аўтару і якую роль павінен быў адыграць – невядома. Пакідае ён уражанне нечага лішняга, надуманага і таму выпадае з плана апавядання. Вы, напэўна, ведаеце пра чэхаўскую стрэльбу. Чэхаў казаў, што калі ў першай частцы ў Вас павешана стрэльба, дык у адной з наступных яна павінна выстрэліць. А ў "Алёшы" Ваша стрэльба – "Мікола" не страляе. Такім чынам, калі выкінуць усё, што гаворыцца пра яго, апавяданне ня зменіцца.

Не даапрацавана ў апавяданні дробязь з дзесяцірублёўкаю, што доктар пакінуў у Ганулі на стале. Пачатак другога раздзела, дакладна тры старонкі, можна пераказаць у адным невялікім абзацы,

радкоў на 10, ува ўспамінах Ганулі ці яе сына Алёшы.

Таксама неабходна да мінімума скараціць Надзею Паўлаўну і доктара, бо іх узаемаадносіны і іхнія размовы – тэма асобнага апавядання.

Ваша апавяданне называецца "Алёша". І няма патрэбы паміраючага сялянскага хлапчука Алёшу абкружаць рознымі асобамі, яго самога і яго маткі досыць, каб пабудаваць цікавае і вострае псіхалагічнае апавяданне.

У раздзеле шостым і хваробы, і настрой хлапчукоў, і цікавасць іх пераказаць можна праз іх гутарку, тады, як яны зойдуць да Алёшы. Гэта будзе яшчэ цікавей. Яны могуць расказаць, як і трапілі да яго.

Пачатак і канец у Вас добрыя, пачатак лепш было б сціснуць больш. У канцы добра было б, каб шыбу Алёша разбіў знячэўку якнебудзь, а не знарок.

Калі Вы згодзіцеся з усімі гэтымі заўвагамі і паводле іх пераапрацуеце "Алёшу", з яго выйдзе добры твор. І тады, на маю думку, яго можна будзе бясспрэчна надрукаваць у часопісе "Полымя рэвалюцыі". Пажадаю Вам гэтага поспеху.

Хаця я і пад канец кажу пра мову, аднак жа Вы ёй аддавайце самую большую ўвагу, бо без добрае мастацкае мовы не можа быць добрага мастацкага твору. Я не буду тут падаваць усякіх прыкладаў з рукапісу, толькі параю прыглядзецца да шматлікіх маіх заўваг і падкрэсліванняў. Я ўпэўнены, што яны Вам дапамогуць адшліфаваць апавяданне і трохі лепш зразумець характэрныя асаблівасці пабудовы беларускага сказа, бо Вы ў шмат якіх выпадках будуеце сказы, выходзячы з уласцівасцей рускае мовы, а не беларускае і таму звароты мовы ў апавяданні ўласцівы рускай, а не беларускай мове.

Чытаючы цяпер, Вы напэўна самі яшчэ заўважыце сям-там памылкі і недахопы і будзеце больш патрабавальнымі да самога сябе.

У шмат якіх выпадках я пад некаторымі сказамі і словамі надпісаў тыя, якімі трэ было б пераказаць тую ці іншую думку, — Ваша воля згадзіцца ці не з імі. Зрабіць гэта я лічыў сваім абавязкам.

Яшчэ адна дробная, але надзвычай важная заўвага: да мінімума скараціце мясціны з гноем. Яго ў апавяданні так поўна, што часам разахвочвае чытаць. А гэта ўжо дрэнна. Бязлітасна пастаўцеся да такіх мясцін.

*Апошняе.* Чаму Вы прымушаеце Алёшу паміраць ад залатухі? Залатуха – гэта такая хвароба, ад якое бадай зусім не паміраюць і не паміралі. Вы мабыць самі адчуваеце гэта і прымушаеце Алёшу кашляць, г. зн. назычаеце яму туберкулёз. З сухотаў памірала не мала людзей у беларускай вёсцы.

Звярніце ўвагу на вобразы: больш вобразаў.

**Літкансультант Р.МУРАШКА**

*28 мая 1939 г.*

Паважаны тав. Чарнышэвіч!

Сумаваць не трэба. Хто ўсяго сябе аддае вялікай творчай працы, той не павінен сумаваць. Бо радасць жыцця заключаецца ў творчай працы, і мэтай кожнага чалавека павінна быць працаваць на карысць свайго народа. Вы-ж працуеце. Працуеце не мала. А калі аддаеце працы ўсяго сябе і адчуваеце радасць, дык вы ўжо шчаслівы чалавек. Шчасце чалавека ў творчай працы.

Праца пісьменніка патрабуе поўна ўпартасці, сілы волі, акром, вядома, таленту. Гэтая ўпартасць не павінна абмінаць і працы над моваю, тым большыя поспехі вашыя будуць у мове.

Цяпер вы канкрэтна пыталіся, што з "ЛЕТАМ". Яно перадана Лыньковым сакратару рэдакцыі часопісі "Полымя рэвалюцыі". Больш яшчэ нічога нельга сказаць. Яму-ж мною перадана і апавяданне "АЛЁША". Калі вы нічога не маеце супроць, я яго трохі паправіў, нідзе не парушаючы ні аўтарскага замысла, ні асаблівасці пісьма. Апавяданне мне падабаецца і па мне яго можна друкаваць, што я і рэкамендаваў рэдакцыі, як літкансультант. Ува ўсякім разе можна спадзявацца, што нешта будзе надрукавана. Апошніх пяць апавяданняў я яшчэ не чытаў. З 15 ліпеня ў нас працуюць курсы маладых пісьменнікаў і прыходзіцца займацца выключна імі. На працягу наступнага месяца прачытаю і напішу вам.

Ці чытаеце Вы што з беларускай літаратуры і што?

Ці ёсць у вас беларускія кнігі і якія?

Вашае просьбы я не забуду.

Працуйце, пішэце.

**З прывітаннем літкансультант**
**Р. МУРАШКА**

*17 жніўня 1939*

Тав.Чарнышэвіч!

"Апавяданняў Салівона Харытончыка", на вялікі жаль, я не чытаў, бо толькі ўправіўся атрымаць іх, як вымушаны быў ехаць на поўдзень. Перад ад'ездам я перадаў апавяданні нашым работнікам, якія мусілі адказаць Вам. Ува ўсякім разе што з імі і дзе яны цяпер, я высветлю, і вы атрымаеце пэўны адказ.

"Алёша" друкавацца будзе (у 6 ці ў 7 нумары "Полымя рэвалюцыі"), будуць надрукаваны і апавяданне "Лета" — цяпер яны ў стадыі рэдакцыйнае апрацоўкі.

На ліпень м-ц у нас склікаюцца курсы маладых аўтараў. Я ўношу прапанову, каб выклікалі на гэтыя курсы і Вас. Напэўна, Вам нядрэнна было б пазаймацца на іх. Калі мая прапанова прымецца, тады атрымаеце паведамленне.

**З прывітаннем літкансультант**
**Р.МУРАШКА**

*19 мая 1940 г.*

*11 лютага 1941 г.*

Добры дзень, таварыш Чарнышэвіч!

Я Вам пісаў яшчэ з восені нешта, але ліст, мабыць, згубіўся недзе ў дарозе.

Наконт апавяданняў... "Алёша" падрыхтована да друку і напэўна будзе надрукавана, — яно ў Хв.Шынклера ("Полымя рэвалюцыі"). "Алёшавы апавяданні," калі яшчэ не перададзены, дык аддадуцца гэтымі днямі з "Ліма" ў "Полымя рэволюцыі" – памер іх не газетны. Наконт верша я напамяну Клімковічу. Уся бяда ў тым, што ў "Ліме" няма каму цікавіцца мастацкай творчасцю. Бярозкін зацікаўлены толькі ў крытыцы. Апавяданне аднаго, напрыклад, маладога аўтара было надрукавана толькі праз год. Але Вы не чакайце пакуль з'явіцца ў друку дасланае Вамі ў рэдакцыю, а пішыце новыя. Канчайце "Апавяданні Харытончыка" і прысылайце.

Добра, што Вы не кідаеце працы над аповесцю. Працуйце! Гэтага году курсы маладых пісьменнікаў таксама будуць, і Вас на іх выклікаем абавязкова.

Нумар 6 "Полымя рэволюцыі" Стаховіч Вам нібыта выслаў, як казаў, пішыце, ці атрымалі.

Навін асаблівых няма. Праўленне Саюза больш трохі пачало займацца творчымі пытаннямі, абмяркоўваюцца новыя творы, падводзяцца вынікі творчаму году. Жыццё трохі варушыцца. Адбылі ўгодкі Я.Купалы, цяпер на чарзе ўгодкі Я.Коласа. Я.Купалу прысуджана Сталінская прэмія па паэзіі (100.000 рублёў), з артыстаў – Александроўскай (50.000 рублёў).

Працуйце, пішыце.

**З прывітаннем Р.МУРАШКА**

*15 сакавіка 1941 г.*

Добры дзень, тав. Чарнышэвіч!

Атрымаў Ваш ліст. Тое, што Бярозкін гаворыць пра Вашы апавяданні, яшчэ не з'яўляецца канчаткова аўтарытэтным, каб вырашыць іх лёс, і потым ён не можа гаварыць за каго (я тут разумею Хв.Шынклера), асабліва за рэдакцыю "Полымя рэволюцыі". Так што не спяшайцеся з перадачаю іх у "Іскры Ільіча" – наперадзе часу яшчэ багата. Пра "Алёшу" таксама не турбуйцеся вельмі – яно падрыхтавана да друку.

Нумар часопісі з "Летам" Вам пасылалі, я сам бачыў, — не ведаю, чаму ён не дайшоў да Вас. Як прыедзеце на курсы, я для Вас яго захаваю.

Цяпер яшчэ наконт "Алёшкавых апавяданняў", — я толькі вось гутарыў з Шынклерам. Ён кажа, што чытаў іх і яны паўтараюць сітуацыі "Лета". І кажа, што напісаў Вам ліст. Як прыедзеце на курсы, уладзім.

А што з Вашым "Летам" у выдавецтве? І чаму Вам не даць разам у адзін зборнік і "Лета", і "Алешкавых апавяданняў" пад аднэю назваю? Думаю, што было б мэтазгодна зрабіць так.

А ўогуле не бярэце блізка да сэрца некаторых непрыемнасцяй – гэта звычайныя з'явы на шляху пісьменніка.

Два месяцы мяне ў Мінску не будзе. Здароўе вымушае ехаць у Крым, адкуль вярнуся пасля 20 мая.

Працуйце, не звяртайце ўвагі ні на якія перашкоды. Сапраўднага мастака нішто не можа спыніць на яго шляху.

**З прывітаннем Р.МУРАШКА**

**P.S. Клімковіч якраз у Маскве і таму з ім не мог пагутарыць.**

*На здымку: Рыгор Мурашка (у ніжнім радзе справа) побач з Кандратам Крапівою і Міхасём Лыньковым — на нарадзе маладых пісьменнікаў Беларусі (1940 г.)*

## З пачуццём любові

**Віцебская зямля дала Беларусі такія славутыя імёны, як Юрый Пэн, Марк Шагал, Казімір Малевіч, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Аляксей Дудараў і іншыя.**

**Нядаўна ў гасцёўні Уладзіслава Галубка адкрылася рэтраспектыўная выстаўка работ народнага мастака БССР Яўгена Дзмітрыевіча Нікалаева, які з пачатку 30-х гадоў жыў і працаваў у Віцебску. Амаль што 35 гадоў, пачынаючы з 1944 і да апошніх дзён свайго жыцця, ён быў галоўным мастаком Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. З яго імем звязана большая частка гісторыі тэатра. Невыпадкова станоўчая энергетыка Я.Нікалаева прысутнічае ў тэатры і па сённяшні дзень.**

**Я.Нікалаеў нарадзіўся ў Пецярбургу ў 1913 годзе. У пачатку 30-х ён прыехаў вучыцца ў Віцебск і застаўся ў горадзе назаўсёды. З 1933 года ён прыйшоў працаваць у тэатр імя Я.Коласа, БДТ-2, спачатку бутафорам, а потым самастойна ствараў дэкарацыі. Яўген Дзмітрыевіч працаваў з сусветнай класікай, беларускімі творамі. У яго сцэнаграфіі галоўнымі былі панарамнасць, пафаснасць, жывапіснасць. У 1967 годзе Я.Нікалаеву было прысвоена ганаровае званне народнага мастака БССР.**

**Пачуццё любові спадарожнічала Яўгену Дзмітрыевічу ўвесь час. Па-першае, гэта любоў да жыцця. Ён атрымліваў асалоду ад кожнага яго імгнення. Па-другое, любоў да сваёй працы. Я.Нікалаеў не ўяўляў свайго жыцця без тэатра. І, па-трэцяе, магчыма, самае галоўнае пачуццё, якое натхняла яго на плённую творчасць, каханне да жанчыны — сваёй жонкі. Яны сустрэліся, калі ёй было 15 гадоў, і прайшлі разам праз усе выпрабаванні жыцця.**

**Рэтраспектыўная выстаўка работ Я.Нікалаева была створана сумесна з Беларускім саюзам тэатральных дзеячаў. На ёй прадстаўлены матэрыялы з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры РБ і сямейнага архіва ўнучкі мастака А.Паўлавай. Гэта асабістыя рэчы, малюнкі, партрэты, шаржы, малюнкі з падарожных альбомаў і блакнотаў, праграмы спектакляў, эскізы касцюмаў, дэкарацыі да спектакляў, фотаздымкі. На адкрыцці выстаўкі выступілі дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы Г.Давыдзька, старшыня Беларускага фонду культуры У.Гілеп, мастак Д.Мохаў, загадчык літаратурнай часткі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я.Коласа С. Дашкевіч.**

**Калектыў музея вельмі ўдзячны родным і блізкім мастака за іх разуменне ўсёй важнасці і каштоўнасці прадстаўленых ім матэрыялаў для экспазіцыі.**

**Л.КАМАРОЎСКАЯ,**
**загадчыца гасцёўні У.Галубка**

## Жыццё з песняй

**Кніга "Жыццё з песняй" пра вялікага сына свайго народа, дырыжора, хормайстра, заснавальніка і мастацкага кіраўніка Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларусі Рыгора Шырму пабачыла свет напярэдадні 110-х угодкаў ягоных народзінаў. Аўтар, дэкан факультэта культуралогіі Беларускага універсітэта культуры Аляксандр Жураў, меў шчасце не толькі два дзесяцігоддзі спяваць у шырмаўскай капэле, але і сябраваць сем'ямі.**

**Кніга складаецца з дзвюх частак. У першай, мастацкай, змешчаны ўспаміны аўтара, іншых спевакоў, а таксама пісьменніцы Ніны Загорскай пра жыццёвы і творчы шлях Рыгора Раманавіча, на якім былі не толькі ружы, слава ды ўсенароднае прызнанне. Маэстра спазнаў пераслед з боку ўлады. За прапаганду беларускай песні яго вінавацілі ў нацыяналізме, пагражалі расфарміраваць калектыў. Былі ў яго і зайздроснікі, якім не даваў спакою феномен гэтага рэдкага самародка. Выхадзец з простай сялянскай сям'і, у якой не было ні спевакоў, ні музыкаў, ён без элементарнай музычнай адукацыі, не знаёмы з прафесійнай тэхнікай дырыжыравання, дасягнуў вяршыні харавога мастацтва.**

**Кожны з успамінаў дадае нешта новае да незабыўнага вобраза Рыгора Шырмы, высвечвае новыя факты з яго біяграфіі.**

**Другая частка кнігі носіць дакументальны характар. Тут змешчаны унікальны дзённік выступленняў капэлы Рыгора Шырмы за 30 гадоў яе існавання — з 1940 па 1970, — які захоўваўся ў сямейным архіве знанага саліста Міхася Шумскага. Дзённік дае магчымасць прасачыць геаграфію гастроляў і канцэртаў калектыву з пазнакай канкрэтнай даты і месца выступлення. Назавём толькі адну лічбу з дзённіка. За 30 гадоў пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы калектыў даў 4564 канцэрты.**

**Каштоўнасць выдання яшчэ і ў тым, што яно ілюстраванае рэдкімі фотаздымкамі.**

**Кніга "Жыццё з песняй" — гэта даніна ўдзячных нашчадкаў у вянок памяці вялікага Майстра, Чалавека, Грамадскага Дзеяча. Яна будзе цікавай не толькі для работнікаў культуры, але і для шырокага кола чытачоў. Набыць яе можна ў кнігарні "Ноты" і ў кніжным кіёску Беларускага універсітэта культуры.**

**Ірына ЛЯКСЕЕВА**

# Пошукі ісціны

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

### Бессмяротная

На могілках, паміж магіл, бегала дзяўчынка гадоў пяці — бялявенькая, у чырвонай куртачцы, і крычала:

– Мама, здесь так красиво, памятники стоят, цветочки растут!

Шчаслівае дзіця, пакуль бессмяротнае.

### Працэс

Калі ішоў вядомы судовы працэс супроць паэта Іосіфа Бродскага, шмат якія вядомыя дзеячы культуры, літаратуры выступілі ў абарону паэта. Звярнуліся і да Аляксандра Салжаніцына, каб і ён падаў голас у абарону. Але Салжаніцын сказаў, што не будзе ўмешвацца ў судовы працэс, бо, наколькі яму вядома, ніводнаму рускаму пісьменніку праследванні не пашкодзілі.

### Роля паэта

Знакаміты ангельскі паэт Уінстан Х'ю Одэн занатаваў:

"Нічога з таго, што я пісаў пра Гітлера, не выратавала ад пагібелі ніводнага яўрэя. І нішто з таго, што я пісаў пра вайну, не наблізіла канца вайны ні на адну хвіліну".

Вялікая скруха паэта.

### Свет перакуліўся

Колькі разоў на маім вяку перакуляўся свет?

Першы раз — калі пачалася вайна, і разбурылі горад, і прыйшлі немцы. А мы ж спявалі песні пра нашу непераможнасць…

Другі раз свет перакуліўся, калі паказалі сапраўднае аблічча Сталіна. Калі ён — самы мудры, самы справядлівы, самы разумны — аказаўся такім вурдалакам, то чаго чакаць ад звычайнага чалавека?

Трэці раз перакуліўся свет, калі разваліўся Савецкі Саюз. Значыцца, няма на свеце нічога трывалага — гэткі гігант, маналіт рассыпаўся, варта было піхнуць яго адным пальцам.

### Работа

У Грозным не было рабочых месцаў, па вуліцах бадзяліся беспрацоўныя.

Дашчэнту разбурылі горад, цяпер яго адбудоўваюць — знайшліся рабочыя месцы.

### Разумныя

Прыемна пагаварыць з разумным чалавекам, але… З адным разумным пагаворыш — і сам, здаецца, паразумнееш. А другі так прыгняце сваім розумам, што адчуваеш сябе перад ім поўнаю дурніцаю.

### Надзьмуты пузыр

Як караля робіць світа, так пісьменніка робіць крытыка. Часам так надзьмуць пусты пузыр, што ён высока ўзляціць у паднябессе.

### Выгада

Некаторым нашым пісьменніцам трэба не толькі ўмець пісаць, але і ўмець уладкавацца ў жыцці. Выгадна было належаць да камуністаў — належалі да камуністаў. Зрабілася выгадна славіць Госпада — славяць Госпада.

### Чаму так…

Памірае чалавек, і знікае назаўсёды. Хоць бы зрэдку, калі-нікалі, на хвіліначку завітаў да сваіх — паглядзець, як ім тут, без яго, жывецца, расказаў бы, як яму там…

Дык — не, знікае бясследна…

### Строі

Калі ідзеш на якую імпрэзу і думаеш, што апрануць, кіруешся больш на ўвагу жанчын, бо мужчынам неяк усё роўна, у што ты апранута, а жанчыны так і свідруюць крытычным вокам адна адну.

### З'езд

Трынаццаты з'езд пісьменнікаў. Поўная зала раўнадушных людзей, хаця стан беларускай літаратуры крытычны. Губляецца роля пісьменніка ў грамадстве, трацім чытачоў. Зала раўнадушна слухала посныя выступленні чыноўнікаў, а сама маўчала. Можа, таму, што пісьменнікі ва ўсім зняверыліся? Зразумелі, што нічога іх выступленні не зменяць, не пераменяць?

### Дзеткі

Настаўніца прывезла з вёскі ў Мінск на экскурсію сваіх дзетак — хлопчыкаў і дзяўчынак сёмых, восьмых класаў. Не з далёкай вёскі, не з глухамані — з Мінскай вобласці. Некаторыя з гэтых дзетак ні разу не былі ў сталіцы і баяліся ездзіць на эскалатары ў метро, адна дзяўчынка баялася пераходзіць вуліцу па падземным пераходзе. Як адрозніваюцца гэтыя вясковыя дзеткі ад гарадскіх, якія ўсё ведаюць і нічога не баяцца!

Але затое гэтыя вясковыя дзеткі ведаюць усю сялянскую работу, змалку памагаюць бацькам у полі, у агародзе. І на іх, на гэтых дзетках, некалі будзе трымацца свет, жыццё.

### Грахі

Усе мы грэшныя, усе маем грахі, але не кожнага Бог за грахі карае…

### Матка

У калідоры лечкамісіі мые падлогу, чысціць дываны старая згорбленая бабулька. Я кажу ёй:

– Вам жа цяжка рабіць гэту работу, пара, можа, адпачыць…

– Ага, адпачыць, — гаворыць бабулька. — А дзеці, унукі? Сын мала зарабляе і ўсё кажа — мама, дай, дай…

Божа мой, падумала я. У такія гады дзеці павінны клапаціцца пра матку, у нас жа неяк павялося, што матка да глыбокай старасці гадуе спачатку дзяцей, потым — унукаў.

### Кіты

У акіяне, на вялізнай глыбіні плывуць побач, кранаючца адзін аднаго два аграмадныя кіты — самец і самка. У іх — каханне. Што вабіць іх адно да аднаго? Якія пачуцці яны перажываюць? — таямніца для чалавека. Але кіруе імі, мусібыць, тое, што і людзьмі, — жаданне пакінуць пасля сябе патомства.

### Перад экзаменамі

У паштовым аддзяленні, каля вакенца, дзе працуе ксеракс — вялікі гурт дзяўчат і хлопцаў. На ксераксе множаць шпаргалкі.

– У наш час такога сервісу не было, — жартую я.

– У ваш час шмат чаго не было, нават сексу, — дзёрзка адказвае высокая бялявая студэнтка.

Стаяць студэнты каля вакна амаль гадзіну, бо друкуюць шмат шпаргалак. За імі выстраілася доўга чарга.

– Бачыце, колькі людзей сабралі, — нецярпліва гаворыць пажылы мужчына.

Высокая, бялявая азіраецца, бачыць доўгі хвось чаргі.

– Ну і што, — бесклапотна адказвае яна. Ім цяпер усім — ну і што!

### Певень

Восень. Усе студэнты, інтэлігенцыя краіны ў калгасах — бульбу выбіраюць. Кожная ўстанова мае сваю разнарадку — колькі штук рабочай сілы ад яе палагаецца.

Я тады вучылася ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры Акадэміі навук. І сюды прыйшла разнарадка. А кім ахвяраваць, адарваць ад сапраўднай навукі — не дактарамі ж ды кандыдатамі. Найлепшыя кандыдаты на бульбяную навуку — аспіранты. Вось мяне і паслалі.

З раніцы да вечара ў халоднай, мокрай зямлі. Часам і пад дажджом. Выбіралі тую дробненькую бульбу, скідалі ў кашы, кашы цягалі да гурбаў, якіх насыпана ўжо і тут і там. Цэлы дзень спіны не разгінаем, толькі цемнатою вяртаемся ў хату, дзе на пастой нас прызначана некалькі жанчын.

Што мы тады елі — не памятаю, але памятаю, як мы клаліся спаць — усе ўпокат на падлозе і цяжка засыналі. Але праз якое паўгадзіны нас будзіла адчайнае:

– Ку-ка-рэ-ку!

У гаспадыні ў падпеччы жылі куры з пеўнем і гэты акаянны курыны кавалер праз кожныя паўгадзіны выдаваў сваю арыю.

Я не памятаю, каб я каго так ненавідзела ў той час, як гэтага пеўня.

### О-кэй!

Калі ў амерыканца спытаюць — як тваё жыццё? Ён заўсёды адкажа — о-кэй, усё выдатна. Па-першае, каб не перакладаць свае праблемы на плечы іншага. А па-другое — у Амерыцы не любяць людзей, якія не маюць поспеху.

Калі ў беларуса спытаюць — як тваё жыццё, ён уздыхне і пачне жаліцца. І, можа, зусім не таму, што яму ўжо вельмі кепска жывецца, а каб не сурочыць. Скажа, што ў яго ўсё добра, — і сурочыць.

### Цюцькі

Раным-раненька вакол нашага дома дзяды і бабулі выгульваюць сваіх Бобікаў ды Рэксаў. Не сабе заводзілі тых цюцькаў, куплялі ўнукам — надта ж тыя прасілі. А нагуляўшыся з жывымі цацкамі, пакідалі пра іх клапаціцца і клопат той узялі на сябе старыя. Вось і водзяць на шворках тых сабачак — не выкідаць жа на вуліцу, шкода. Толькі невядома, хто каго выгульвае па тры разы на дзень: дзяды і бабулі тых сабачак, ці сабачкі — бабулек і дзядоў.

### Ля кніжнага кіёска

– А ці ёсць у вас які-небудзь твор Янкі Купалы?

– А хто такі Янка Купала? Што ён піша? Дэтэктывы?

Знарок не прыдумаеш…

### Бабульчына мова

Беларуская мова цяпер ужо не матчына мова, а бабчына, можа, нават і прабабчына, бо нашы маткі таксама ўжо паадракаліся ад яе.

### Мараль

У метро маладое дзяўчо прымасцілася на каленях у хлопца і пяшчотна таго абдымае.

На лаўцы насупраць у хустцы, завязанай накругла, з вядром і кошыкам пры сабе сядзіць пажылая кабета. Яна доўга няўхвальна глядзіць на дзяўчыну, потым злосна плюе.

– Злазь! — нагадвае яна дзяўчыне. — Як не брыдка, цьфу!

Дзяўчына здзіўлена глядзіць на кабету з вядром і кошыкам, усміхаецца.

– Злазь, табе кажу! Як не сорамна!

Дзяўчыне не было сорамна. І маладыя хлопцы, дзяўчаты, што ехалі ў метро, за яе заступіліся.

– Кінь, бабка!

– Ты ўжо старая!

Тут падышла наступная станцыя, дзверы ў вагоне расчыніліся, пажылая кабета падхапіла свае вядро і кошык, выскачыла за дзверы.

Моладзь праводзіла яе дружным смехам.

Канфлікт пакаленняў…

### Лепш па бабах…

Жанчына жалілася, што муж — п'яніца. Не прасыхае. У яе спыталіся:

– А што лепш, калі муж п'яніца, ці калі па бабах ходзіць?

Жанчына падумала, уздыхнула і сказала:

– Лепш ужо па бабах…

Мусібыць, п'яны муж быў ёй такі агідны, што яна гатова была дзяліць яго з іншымі жанчынамі, абы ён быў падобны на чалавека.

### Завушніца на пупку

Усяго пабачыла на сваім вяку, але такое — упершыню. У дзяўчыны на пупку вісела завушніца. Пайшла мода — не толькі выстаўляць аголены пупок, але і чапляць на яго аздобу.

Чым яшчэ падзівяць нас дзяўчаты дваццаць першага стагоддзя?

### Матылёк

Прыгожы матылёк заляцеў у домік, кінуўся да вакна, а там сетка. Б'ецца беднае стварэнне, поўзае, лопае крыльцамі, шукае выйсця. А зусім блізка расчыненыя дзверы. Ды матылёк не можа зразумець сваім матыліным розумам, што выйсце — побач.

Можа, так і чалавек, трапляе быццам у безвыходнае становішча і не можа зразумець, што выйсце знайсці так проста.

### Яшчэ абдурвае

Прыехала сваячка з Салігорска, пытаюся ў яе:

– Як там твая мама, колькі ёй ужо гадоў?

– Дзевяноста сем, — адказвае сваячка. — Усё сама робіць, затопіць лазеньку і сама памыецца. Гуляе ў карты і яшчэ абдурвае…

### Спрэчка

Спрачаюцца муж з жонкаю:

– Я акадэмік, а ты, можна сказаць, непісьменная кабета, і яшчэ тут мне камандуеш!

– Ты акадэмік, а я жонка акадэміка і магу камандаваць!

### Сляды бруду

Калі захочуць загубіць чалавека, альбо, як цяпер, палітыка, то прыдумаюць на яго сотні небыліц, выкачаюць у брудзе, абгадзяць паклёпамі і ўсё жыццё ён будзе абчышчацца, адмывацца, даказваць, што ён не вярблюд, але людзі чамусьці створаны так, што больш вераць благому, чым добраму, і сляды таго бруду прыклеюцца да яго назаўсёды.

### Пытанне

У разумнага чалавека падчас інтэрв'ю спыталі:

– А што вы думаеце пра сусвет, пра яго стварэнне, існаванне?

– Адкажу вам на гэта пытанне, калі памру, — сказаў разумны чалавек.

### На святой зямлі

На месцы нараджэння Хрыста, на месцы яго катавання, дзе ён аддаў жыццё за выратаванне роду чалавечага, счапіліся ў крывавай бойцы палесцінцы з ізраільцянамі і на святы пясок, на святыя камяні ліецца кроў, і раўнадушна пазірае на іх зверху богачалавек, разумеючы, што калі жыццём сваім не акупіў іхнія грахі, то што значыць для іх слова боскае…

### Прыгажуня

Кракадзілу яго кракадзіліха, мусібыць, здаецца прыгажуняй…

### Камуналка

Бывала, калі рассельвалі камуналкі і людзі атрымлівалі асобныя кватэры, хто-ніхто і сумаваў па той агульнай кухні, дзе кожны ведаў, што варыцца ў суседа ў каструлі.

Так і цяпер — рассялілі камуналку —

Савецкі Саюз, кожны займеў сваю кватэру — незалежнасць, але нехта і сумуе па агульнай кухні, робіць захады, каб вярнуцца ў камуналку.

## Усмешка і слёзы

Калі чалавек плача, то брыдчэе. Калі чалавек усміхаецца — прыгажэе. Але як рэдка жыццё дорыць нам радасць усмешкі і як рэдка бываем мы прыгожыя.

## Зямная куля

У Вашынгтоне, на ўскраіне горада, дзе размяшчаўся наш гатэль, адзін наш турыст са здзіўленнем зазначыў, што такую вуліцу ён мог бы знайсці і ў Хабараўску, адкуль сюды прыехаў.

Таксама, як дзівілася я, падлятаючы да канадскага Манрэаля, што зямля вакол яго надта падобна на нашу.

Што ж, зямная куля — усюды зямная куля.

## Кнігі

Калі ён прыязджаў у Маскву ці ў Мінск, то адразу кідаўся ў кнігарні. Яму прыносіў аграмаднае задавальненне выгляд паліц, застаўленых кнігамі, меў асалоду ад таго, што перабіраў кнігі, трымаў у руках, гартаў. Ён купіў бы і тую, і гэту, але меў мала грошай і купляў для сябе самае цікавае. Яго кватэра ў запалярным горадзе ад падлогі да столі была застаўлена кнігамі, якія ён збіраў з маладосці і вось, да старасці. Жонка сварылася — у кватэры няма чым дыхаць, а ён носіць і носіць кнігі, яшчэ і яшчэ. Колькі можна!

Жонка памерла.

Памёр і ён.

У яго была дачка, але яна жыла ў другім горадзе. І ў яе з'явіўся клопат — прадаць бацькаву кватэру, бацькаву бібліятэку.

На кватэру купец знайшоўся, а кнігі ніхто не хацеў купляць. Прапанавала бібліятэцы, але там сказалі, што ў іх вельмі малая плошча, свае кнігі няма дзе ставіць.

Прапанавала школам. Прыходзілі настаўнікі, корпаліся ў бібліятэцы, выбіралі, хто што хацеў. Але гэта была кропля ў моры.

А купец на кватэру прыспешваў — вызваляйце пакоі!

І яна пачала выносіць кнігі. Проста ў двор, туды, дзе стаялі кантэйнеры для смецця.

Страшна было глядзець, як гартаў вецер старонкі фаліянтаў.

Сэнс чалавечага жыцця быў выкінуты на сметнік.

## Эскізы

Цікава, хто маляваў пану Богу эскізы, па якіх ён ствараў птушак цудоўнай красы, грацыёзных звяроў і кветкі найвялікшай прыгажосці? Няйнакш, тыя мастакі былі сагрэты ласкай Боскаю, бо не мог стварыць такі цуд звычайны смяротны творца. Звычайныя мастакі толькі паўтараюць красу зямную.

## Драпежнікі

Гепард магутнымі скачкамі гоніцца за антылопаю. Перапалоханая антылопа таксама скача — уцякае. І не ведаеш, каму больш спачуваць — галоднаму гепарду ці прыгажуні антылопе. Гэтым разам антылопа ўцякла, галодны гепард стаіць, аддыхваецца.

І пачынаеш разумець — якое цяжкае жыццё ў драпежнікаў. Няма ў іх ні зарплатаў, ні магазінаў, ні пенсіі на старасці. Кожны кавалак ежы павінен зарабіць сваім уменнем, спрытам. Не дагоніш, не заб'еш — памрэш з голаду і ніхто табе не дапаможа.

## Трылер

Самалёт уразаецца ў хмарачос, хмарачос абвальваецца — грукат. пыл, агонь. Што гэта — фільм жахаў, трылер, якія так любяць амерыканцы? Адразу і не зразумела, што гэта не трылер, а само жыццё...

Дзе тая Амерыка, дзе тыя хмарачосы, а я тут, на сваім краёчку зямлі, адчула сябе бездапаможнаю, безабароннаю.

## Галасок

Пазваніла ў паліклініку. Азваўся прыемны малады галасок. Падумала, што сястрычка, і папрасіла:

– Золатка, ці нельга паклікаць Ніну Іванаўну?

– Я вам не золатка, — строга адказаў прыемны малады галасок, — а ўрач фізіятэрапеўт!

Прыйшлося доўга прасіць прабачэння і апраўдвацца.

## Буда

Пагада — будыйскі храм. На ўзвышэнні сядзіць пазалочаны Буда, склаўшы перад сабою рукі. Ён спакойны і велічны, бо дасягнуў нірваны.

Чародкаю праходзяць паўз яго будыйскія манахі — маладыя мужчыны, нагала стрыжаныя, у доўгіх чырвоных хітонах.

Цікава, што ў іх галовах, пра што яны думаюць? Пра святасць Буды? Пра сваю да яго далучанасць? Пра непахіснасць сваёй веры?

Яны не пакутуюць, шукаючы ісціны, яны перакананыя, што яе спасцiглі.

УГОДКІ

# І сведкам быў усіх падзей

### ДА 110-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АЛЕСЯ ГУРЛО

Менавіта так пісаў Алесь Кандратавіч у вершы "Ленінград", згадваючы гады свайго юнацтва:

***Астаўся памятным навекі***
***Вялікі дзень вялікіх дзей,***
***Калі знішчаў прыгнёт і здзек я***
***І сведкам быў усіх падзей.***

У Петраградзе ж Алесь Гурло апынуўся ў пошуках лепшай долі, падаўшыся туды ўслед за многімі сваімі землякамі — нарадзіўся ў мястэчку Капыль. А перад гэтым была вучоба ў мясцовым чатырохкласным вучылішчы, якое скончыў у 1908 годзе, праца чорнарабочым на лесапільні, падзённая работа. У 1909 годзе ўступіў у шэрагі Капыльскай арганізацыі РСДРП. У Петраградзе ж працаваў на заводзе "Вулкан", а прызваны ў армію, служыў на Балтыйскім флоце. Спачатку матросам на крэйсеры "Богатырь", а пасля заканчэння школы унтэр-афіцэраў — на мінаносцы "Забіяка". Прымаў удзел у лютаўскай і кастрычніцкай рэвалюцыях, у штурме Зімняга палаца. Дый і пасля гэтых векапомных дзён са зброяй не развітваўся. І не толькі быў сведкам "усіх падзей", а і іх актыўным удзельнікам.

Таму на Беларусь вярнуўся толькі ў 1921 годзе. Працаваў у Інстытуце беларускай культуры, у Інстытуце мовы Акадэміі навук БССР, а калі канкрэтней — у тэрміналагічнай камісіі. Прымаў дзейсны ўдзел у падрыхтоўцы і складанні розных слоўнікаў. Адзін з іх склаў і выдаў самастойна — "Тэхнічная тэрміналогія". У гэты слоўнік увайшло 6818 тэрмінаў, перакладзеных на беларускую мову. Набыткі А. Гурло ў галіне мовы гэтым аднак не абмежаваліся. Рыхтаваў і слоўнік краўцоўскай гаворкі мястэчка Капыль, а таксама краёвы слоўнік Капыльскага раёна. На жаль, гэтыя рукапісы загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Не захаваліся і каля 300 тэкстаў фальклору, пра збор якіх нават паведамляў усесаюзны часопіс "Этнографія".

Аднак найбольш вядомы А. Гурло як паэт. З першым вершам "Маці-Беларусь" выступіў 21 чэрвеня 1907 года на старонках газеты "Наша Ніва". Будучы ў Петраградзе, падтрымліваў з гэтым выданнем цесную сувязь, перапісваючыся як з рэдакцыяй, так і асабіста з Янкам Купалам. Кнігі паэзіі А. Гурло выйшлі ў паслярэвалюцыйны час: "Барвёнак" (1924), "Спатканні" (1925), "Сузор'і" (1926), "Зорнасць" (1927), "Межы" (1929).

25 ліпеня 1930 года паэт быў арыштаваны, а ў 1931-м асуджаны да пяці гадоў высылкі ў Самару. Праўда, адразу ж вызвалілі, але перажытае не прайшло марна. І так не мог пахваліцца здароўем — сухоты з'яўляліся спадчыннай хваробай сям'і. Рана пайшла з жыцця маці, гэткі ж лёс напаткаў яго братоў і сясцёр. Цяпер жа вымушаны быў часта класціся ў бальніцу, выязджаў на поўдзень. Аднак сухоты падточвалі здароўе і 4 лютага 1938 года А. Гурло не стала.

У пасляваенныя гады яго творы некалькі разоў перавыдаваліся, у тым ліку і ў "Бібліятэцы беларускай паэзіі" (1972). А яшчэ ў 1947 годзе з'явілася кніжка для дзяцей "Нашы птушкі". А. Гурло аднолькава ўдаваліся як лірычныя вершы, так і тыя, у якіх адчувальны сацыяльныя, грамадзянскія матывы. Некалькі вершаў ён прысвяціў сваім родным мясцінам, апяваючы Случчыну ў яе гістарычным разуменні і Капыль. Адным з першых звярнуўся да вобліку Кастуся Каліноўскага. Ва ўяўленні А. Гурло Каліноўскі — прарок:

***З агнём ў вачах, з душою брата,***
***На вуснах з клічам вызвалення***
***І ў сэрцы з прагай захаплення***
***Ён з вёскі ў горад, з кузні ў хату,***
***Ішоў па землях беларускіх***
***І, як прарок, прарочыў людзям —***
***Сваім братам, — што шчасце будзе...***

Моцная ў творчасці А. Гурло паяднанасць з прыродай, аб чым, у прыватнасці, сведчыць верш-прызнанне "***У палеткаў-красы..."

***У палеткаў-красы я узяў галасы,***
***А з калоссяў я звіў сабе струны,***
***А з сталёвай касы я дадаў ім басы,***
***Каб грымелі, бы ў небе пяруны.***
***Я за музу к сабе ўзяў,***
***прырода, цябе,***
***Каб ты казкі аб жыцці шаптала...***

Ён умеў радавацца жыццю, таму нават у творах, прывязаных да канкрэтных рэалій тагачаснай рэчаіснасці, шмат цеплыні, задушэўнасці, шчырасці. А вершы, у якіх захапленне роднымі краявідамі, кранаюць сваёй нерушавасцю, як гэты, адзін з апошніх — "Першы снег":

***Засняжыла снегам сцежкі***
***І дарогі замяло.***
***Ну, хадзем гуляць у снежкі***
***На прасторы, за сяло!***

***Заінелі вербалозы,***
***Паглядаючы ў ваду,***
***Мы у сівага мароза***
***Скубсці будзем бараду!***

Яшчэ ў 1910 годзе А. Гурло напісаў верш "Не гасіце агнёў". Столькі часу мінула, а наколькі ён актуальны і сёння?! —

***Не гасіце агнёў! Хай гараць весялей,***
***Хай палаюць іскрыста ў цьме ночы...***
***Не гасіце агнёў! Хай праменні ясней***
***Асвятляюць праспаныя вочы!..***

Такая ўжо ўласцівасць сапраўднай паэзіі: будучы народжанай у сваім часе, яна прарастае і ў будучыню, знаходзячы водгук у сэрцах новых і новых пакаленняў. Гэта тычыцца і лепшых твораў А. Гурло, які да ўсяго ў 1912 годзе напісаў сямейна-бытавую драму "Любоў усё змагае", займаўся перакладамі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# На старонках і па-за старонкамі

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 12)*

ужо дыпломны спектакль ён паставіў у Маскве ў Цэнтральным тэатры арміі. І далей пайшоў дарогай проста зорнай. З гадамі работы ў тэатрах грымотнай славы — дастаткова назваць той самы ЦТСА, Малы, МХАТ. З ажыццяўленнем спектакляў, што станавіліся з'явамі больш як у тэатральным — у грамадскім жыцці. З уражальным тэлевізійным прачытаннем класікі. З перападамі светлага і нясветлага на выбраным шляху.

Знаёмства наша прадоўжылася і працягваецца каторы дзесятак гадоў на іншым ужо грунце. Сустракаліся і сустракаемся, калі ён апынаецца ў Мінску з прафесійным клопатам: згаджаецца на запрашэнне папрацаваць у купалаўскім ці іншым тэатры Беларусі, або прыязджае на ўдзел у якой акцыі Саюза тэатральных дзеячаў. Калі проста завітвае ў родны горад, які па-сыноўску любіць, дзе мае шмат сяброў.

І вось кніжка, якая ўсё гэта ў памяці ўзварушыла. Не мемуары, не падвядзенне аўтарам вынікаў пражытага, не. Папулярная лекцыя аўтарытэтнага прафесара навучальнай установы, ранейшая абрэвіятура назвы якой была, што згадвалася ўжо, ГИТИС, цяперашняя — РАТИ. Што расшыфроўваецца па-беларуску Расійская акадэмія тэатральнага мастацтва. Гутарка з патэнцыяльнымі абітурыентамі акадэміі. Выпушчана яе ж, акадэміі, выдавецтвам, называецца "Призвание" і мае адпаведную падназву — "Неизвестному Абитуриенту посвящается". Быў бы я выдавецкім рэдактарам кніжкі, параіў бы падназву нават дакладнейшую: "Неизвестному Абитуриенту а д р е с у е т с я".

Дзівосная і загадкавая то рэч — спрадвечная магнетычная прыцягальнасць тэатра. З паўстагоддзя назад, калі Хейфец толькі ступаў на дарогу, што зрабіла ягонае імя гучным, або і не ступіў яшчэ, мроіў аб ёй, тэатру як віду мастацтва досыць шырока прарочыўся хуткі і непазбежны скон. Ды не якімі тагачаснымі Глобамі, а людзьмі надзвычай шаноўнымі, напрыклад, класікам савецкага кінематографа Міхаілам Ільічом Ромам. Маўляў, тэхнічны і навуковы прагрэс немінуча адправіць у нябыт састарэлае, знанае яшчэ прашчурамі відовішча. Маўляў, кіно, тэлебачанне з іхнімі фантастычнымі магчымасцямі, іншыя вынаходствы падобнага кшталту тэатральныя глядзельныя залы спустошаць.

Сённяшняя ява з тых прароцтваў смяецца. За час, які мінуў ад згаданых пахавальных прадказанняў дзядулю-тэатру, на планеце перайначылася шмат што. На шостай частцы зямной сушы, што называлася Савецкім Саюзам, эпахальныя перамены адбыліся ва ўсім — рассыпалася дзяржава, спусціла дух ідэалогія, якая была ў ёй уладарнай, сталее пакаленне за пакаленнем з абсалютна інакшым, як у бацькоў-дзядоў, менталітэтам. Але што бачым? Гледача катастрафічна згубілі залы, дзе паказваецца кіно, прытым назіраецца гэта скрозь у свеце. Тэатры ж што ні вечар паўнюткія — зноў жа скрозь у свеце, прынамсі, у буйных гарадах. Не з чужых слоў ведаю: не так проста адразу, як таго захацелася, трапіць у тэатр у Маскве, у нас у Мінску. І пры складанасцях эканамічнай рэчаіснасці ў Расіі, у Беларусі, паўсюль на постсавецкіх прасцягах, тут нараджаюцца новыя і новыя тэатры. І пры становішчы, што ў цяперашніх варунках суверэнных краін — ранейшых рэспублік СССР — на акцёрскія заробкі банкаўскіх суперрахункаў не займееш (не пра дзіў эстрады гаворыцца!), жадаючых прысвяціць сябе служэнню Мельпамене не меншае, конкурсы ў тэатральныя навучальныя ўстановы, як ва ўсе часы, шалёныя.

Над феноменам гэтага, наогул над тым, што такое акцёрства, адкуль яго прыроднае паходжанне ў чалавецтве, на старонках кніжкі цікава і дасціпна разважаецца. Паколькі задумана і напісана яна, паўтараю, як дапаможнік юнакам і дзяўчатам, што мараць аб сцэне, то значную частку раздзелаў складаюць у ёй практычныя рэкамендацыі летуценнікам. Што ім трэба ўлічваць пры падрыхтоўцы да ўступных экзаменаў, калі ўжо цвёрда вырашана падавацца менавіта ў тэатральную, а не іншую навучальную ўстанову. З чаго яе пачынаць, падрыхтоўку. У якой меры спорт карысны, у якой не карысны для будучага акцёра. Знешнія дадзеныя абітурыента — наколькі яны для экзаменатараў вырашальныя, калі ўзважваюцца ягоныя акцыі на паступленне. Чым адрозніваюцца між сабой галоўныя тэатральныя школы Масквы. Кіруецца дарадчык згледжаным за шмат гадоў педагагічнай працы ў гэтых маскоўскіх профільных вучэльных. Але раенае ім каштоўнае, вядома, і для канкурсантаў тэатральнага факультэта Беларускай акадэміі мастацтваў — дрэвы беларускага і рускага Тэатраў узняліся з аднаго кораня. І колькі ў выказаных парадах інфармацыі пра (ужыву спецыяльную тэрміналогію) псіхафізічныя якасці, без наяўнасці якіх сапраўднага акцёра быць не можа. У ліку іншых — пра неабходныя высокія маральныя якасці, уласцівыя, скажам шчыра, не кожнаму індывідууму.

Вядучы матыў кніжкі — прызнанне ў трапяткой любові да тэатра. Тэатра з вялікай літары. Тэатра, што з глыбокай старажытнасці быў, застаецца, і застанецца вякі і вякі ўперад неабыякавым адлюстравальнікам часу, выказнікам набалелых праблем і спадзяванняў, аналітыкам пераплеценасці ў чалавеку высокага і нізкага. Еўтушэнкава "поэт в Росии больше, чем поэт" пашыраецца і на тэатр. Таксама і тэатр, перакананы аўтар, у Расіі болей, чым тэатр. Называюцца імёны, дзесяцігоддзі назад найславутыя, — Станіслаўскі, Качалаў, Масквін, Міхоэлс, Харава, Тарасава, Кручкоў, Ільінскі, — і слушна зазначаецца, што гэтыя карыфеі сцэны былі і валадарамі дум, вялікімі выразнікамі грамадскіх настрояў часін, у якія жылі.

Ды кожнае мастацтва, тэатральнае ў тым ліку, — жыццёвы занятак, не я к о г а выбіраюць, а я к і выбірае. Само выбірае: каго паланіць, сціснуць у жаданых выбранаму, салодкіх, аднак жа і сурова патрабавальных, капрызлівых, абяцаннем вечнай вернасці не абцяжараных абдымках. Жорсткі талстоўскі закон пісьменніцкай творчасці "можаш не пісаць — не пішы" бязлітасна дзейны і пры выяўленні прыдатнасці канкрэтнай персоны да жыццяздольнасці ў тэатры: можаш жыць без сцэны — у акцёры, у рэжысёры не патыкайся.

Аўтар кніжкі жыць без сцэны не змог бы. Расказвае пра сябе: вучыўся ў Мінску ў політэхнічным інстытуце, і не менш увагі, чым дысцыплінам, абавязковым для атрымання інжынерскага дыплома, аддаваў заняткам у інстытуцкім аматарскім драматычным калектыве. Два гады адпрацаваў на заводзе, і гэтыя ж два гады быў навучэнцам вячэрняй акцёрскай школы пры тэатры імя Купалы. Узгадвае: "Когда я работал на заводе, я не был плохим инженером, но все же я посматривал на часы, и время для меня на работе тянулось медленно. А вот когда я шел в драмкружок, когда я занимался художественной самодеятельностью, что-то репетировал, читал пьесы, ходил в театр, я никогда не смотрел на часы, я был счастливым, время летело, а потом я шел на завод и время снова тянулось".

Натрапляю на гэткія штрышкі з аўтаравага ўласнага, зрэдзь ім сабе дазволеныя, і поруч з іншым рэкамендаваным у кніжцы юным фанатыкам тэатра, пададзеным, як павучальнае, годным прыкладам любові, якою на шляху да таго, без чаго не ўяўляецца жыццё, адольваецца, здавалася, неадольнае, бачыцца мне дарога, пройдзеная Хейфецам самім.

...Памятаю гастролі ў Мінску маскоўскага тэатра Арміі. Народ асабліва валіць на "хітовы" спектакль "Павел I" паводле п'есы колькі часу для айчыннай сцэны недапушчальнага Мережкоўскага з чуйным, напятым у сцэнічных вобразах як струна Алегам Барысавым у цэнтральнай ролі. Хейфец — галоўны рэжысёр тэатра, пастаноўшчык гэтага спектакля, які неўзабаве будзе ўганараваны Дзяржаўнай прэміяй Расіі. Стаіць на ганку опернага, дзе прывезенае гастралёрамі паказваецца, і яму, вядома, прыемна, што да тэатра мкне людскі паток. Да ўсяго, у патоку столькі знаёмых! Згледзеў мяне, прывітальна ўзнімае руку: "А вось і Валодзя!"

Не скажу, што выглядае дужа самавіта — жыўчык-акулярык у буднай джынсавай куртцы. Але ў маіх вачах ён трыумфатар, рады быць у родным горадзе ў такой іпастасі. І ўспомнілася размова з ягонай маці, са згадкі пра якую пачаў гэтыя нататкі. Яна жыве цяпер з сынам у Маскве, ёй ладна за дзевяноста, даўно і свякроўка, і бабуля. Дык цікава: тую колішнюю нашу размову памятае?

**Уладзімір МЕХАЎ**

